А. В. Вольскі, І. А. Гімпель

# ЛІТАРАТУРНАЕ ЧЫТАННЕ

Падручнік для 3 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2012

УДК 821.161.3.09(075.2=161.3)
ББК 83.3(4Беи)я71
В71

Р э ц э н з е н т ы:

кафедра беларускай мовы і методыкі яе выкладання ўстановы адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка» (канд. пед. навук дацэнт *В. І. Свірыдзенка*);

начальнік аддзела пачатковай адукацыі дзяржаўнай установы адукацыі «Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі» *Т. А. Няборская*

**Умоўныя абазначэнні:**

— пытанні і заданні да тэкстаў;

* — заданні павышанай цяжкасці;

— слоўнік.

**Вольскі, А. В.**

В71 Літаратурнае чытанне : падручнік для 3-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання : у 2 ч. / А. В. Вольскі, І. А. Гімпель. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2012. — Ч. 2. — 120 с. : іл.

ISBN 978-985-559-133-8.

**УДК 821.161.3.09(075.2=161.3)**
**ББК 83.3(4Беи)я71**

**ISBN 978-985-559-133-8 (ч. 2)**
**ISBN 978-985-559-017-1**

# ЛЯЖЫЦЬ ЗЯМЛЯ Ў АДЗЕННІ БЕЛЫМ, І ДРЭВЫ Ў ШЭРАНІ СТАЯЦЬ...

*Якуб Колас*



## Надыход зімы

***Якуб Колас***

Адшумелі свой час неспакойныя восеньскія вятры. Нізкія, разарваныя ветрам, мітуслівыя хмары выплакалі халодныя слёзы.

Кароткія, змрочныя дні наводзілі паныласць і смутак. Прыгняталі добры настрой і адчуванне. Быў той час, калі людзі прасілі: «Прыходзіла б ужо зіма. Няхай бы падсушылі марозікі зямлю, каб яна не тапілася ў гразі і ў балоце».

І вось у адзін дзень падзьмула з поўначы здаровым халадком. Зямля сушэла, пакрывалася цвёр-



даю скарынкаю. А пад поўнач пасыпаў сняжок, спорны, густы і сухі. Снег ішоў усю ноч і ўвесь заўтрашні дзень. Пад вечар снег суняўся. На захадзе бліснула журботная, ласкавая ўсмешка сонца і патухла. У небе засвяціліся першыя зоркі. Прыціснуў мароз...

Кругом было так чыста, такая бель, што сляпіла і адбірала вочы.

Лес пасвятлеў, пабялеў і пазбыўся свае хмурай панурасці пад белаю, чысцюткаю пасцілкаю. Кашлатыя лапы ялін гнуліся пад халодным пластом снегу, а маленькія елачкі на ўскрайку лесу і пні панадзявалі пышныя белыя скругленыя шапкі-башлыкі і хаваліся пад імі. І нельга было ўстрымацца, каб не памераць нагамі глыбіню снегавога покрыва...

**Паны́ласць** — прыгнечаны настрой, сум, маркота.

**Пану́расць** — непрыветлівасць, хмурасць, бязрадаснасць.

**Пазбы́ўся** — збавіўся, вызваліўся ад каго-, чаго-небудзь; пазбегнуў чаго-небудзь.

**Башлы́к** — суконны востраканечны капюшон, які надзяваецца на шапку.

1. Якія словы і выразы скарыстаў Якуб Колас, каб паказаць прыроду як жывую істоту? Прачытайце.
2. Як вы разумееце значэнні выразаў «хмары выплакалі халодныя слёзы», «такая бель, што сляпіла і адбірала вочы», «кашлатыя лапы ялін гнуліся пад халодным пластом снегу»?
3. Якія змены назірае аўтар у першыя зімнія дні? Намалюйце словамі карціну першых дзён зімы.
4. Прачытайце апошні сказ тэксту і адкажыце, як бы вы паступілі ў такой сітуацыі.
5. Прачытайце тэкст моўчкі і падрыхтуйцеся пераказаць, як выглядаў лес з надыходам зімы.

6*. Складзіце невялікі тэкст пра першы дзень зімы ў вашай мясцовасці.

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

- *Моцна блішчаць зімою зоркі — да марозу.*
- *Кот на печы — да сцюжы, кот на падлозе — да цяпла.*
- *Снягір зімою спявае на снег і віхуру.*



# Сняжынкі

*Авяр'ян Дзеружынскі*

Закружыліся
Сняжынкі
Нізка, нізка
Над зямлёй.
Ціха лётаюць
Пушынкі
Незлічонай
Чарадой.
Быццам тыя
Матылёчкі,
Весяляцца
Нездарма —
Адамкнула
Ўсе замочкі
Ў небе ім
Сама зіма.

1. Якія пачуцці выклікаў у вас гэты верш? З якім настроем пісаў яго аўтар? Чаму вы так думаеце?
2. З чым параўноўваюцца сняжынкі? Зачытайце.
3. Як вы разумееце апошняе чатырохрадкоўе?
4. Прачытайце верш спачатку самі сабе, а потым выразна ўголас.
5*. Разгледзьце малюнак і складзіце па ім невялікае апавяданне.

# Першая сцяжынка

*Мікола Залескі*

Міколка прачнуўся на досвітку і зірнуў у акно. Яно было яшчэ чорнае. Было чуваць, як маці кладзе ў печ дровы. Яна заўсёды рана ўстае, бо ёй трэба і абед згатаваць, і на ферму не спазніцца. Яна даяркай працуе.

Хлопчык успомніў, як учора бацька гаварыў:

— Я, сынку, на курсы ў горад еду. А ты вучыся добра і маме памагай!

«І як ёй памагаць? Чым? — разважаў Міколка. — Пайду хіба хоць вядро вады прынясу», — вырашыў ён. Але пакуль адзяваўся і засцілаў ложак, маці сама схадзіла па ваду.

Яна паставіла вядро і сказала:

— Ну і снегу ж за ноч укінула! Усе сцежкі замяло. Як я да фермы дабяруся?!

Міколка нібы толькі гэтага і чакаў. Раней, калі бацька быў дома, ён сам заўсёды расчышчаў сцежкі. А цяпер жа яго няма.

Хлопчык выйшаў у сенечкі, знайшоў там шырокую лапату і ўзяўся за работу. Спачатку мерзлі рукі. Але скора зрабілася цёпла. Міколка расчысціў сцежку не толькі на двары, але і на вуліцы насупраць сваёй хаты. Там да яго далучыўся сусед, дзядзька Андрэй, а за ім і з іншых хат павыходзілі



людзі з лапатамі. Нібы з эстафетай памчалася сцяжынка ў другі канец вёскі.

Бадзёры, паружавелы, вярнуўся Міколка ў хату.

— Я, мама, сцежку расчысціў, — сказаў ён.

— Малайчына. Сядай снедаць ды за ўрокі бярыся, а я на ферму пабягу.

Маці выйшла на двор і ступіла на Міколкаву сцежку. Пад нагамі весела зарыпеў снег. «Першую сцяжынку сынок праклаў, — падумала яна. — Будзе з працай дружыць і вось так, непрыкметна, на вялікую працоўную дарогу выйдзе».

**Сені, сенечкі, сенцы** — памяшканне паміж жылой часткай дома і ганкам у вясковых хатах.

1. Які наказ даў бацька сыну?
2. Чым хлопчык спачатку хацеў дапамагчы маці?
3. Прачытайце, як працаваў Міколка. Хто яму дапамагаў?
4. З якім настроем хлопчык вярнуўся дадому?
5. Аб чым падумала маці, ступіўшы на Міколкаву сцежку?
6. Прачытайце твор цалкам і падзяліце яго на часткі па плане.

План

1) Назіранні Міколкі.
2) Бацькаў наказ.
3) Дапамога маці.
4) Першая сцяжынка.

7. Перакажыце тэкст па частках у адпаведнасці з планам.

## Першы снег

*Уладзімір Корзун*

Пасыпаў густа першы снег —
Бялее ўсё наўкола.
Кастусь, ажно засопся, бег
У пятніцу са школы.




Ён дома хуценька пад'еў,
Сказаў, каб не шумелі,
І за падручнікі засеў.
У гэтую нядзелю

Па лыжах будзе першы раз
Спаборніцтва ў школе.
І засыпае снег якраз
Усе прасторы ў полі.

Дык вось сядзіць упарта ён
Над правілам, над вершам,
Бо быць павінен чэмпіён
І па вучобе першым.

1. Якія малюнкі ўзніклі ў вас перад вачыма пры чытанні верша? Якія словы паслужылі асновай для вашых уяўленняў?
2. Чаму спяшаўся хлопчык дадому?
3. Прачытайце, што рабіў дома Кастусь.
4. Знайдзіце і зачытайце радкі, у якіх выражана галоўная думка верша.
5. У якіх зімовых спаборніцтвах удзельнічаеце вы?
6. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша. Пры чытанні верша ўголас захоўвайце пэўны тэмп.

## ПРЫКАЗКА

• *Калі здолееш узяцца за справу, то і снег загарыцца.*

# Сняжынкі

*Васіль Феранц*

У пахмурным небе згушчаліся снегавыя хмары. Апускаліся нізка-нізка, нібы гразіліся засыпаць усю зямлю снегам. Хмары складаліся з незлічонага мноства сняжынак. Сярод іх былі дзве, якія пасябравалі.

— Хутчэй бы ўжо туды, уніз, — гаварыла першая сняжынка. — Цікава, якая яна, зямля?

— І чаго спяшацца? — пярэчыла ёй другая. — Падумаеш, зямля! Тут, у небе, лепей: далёка ўсё відаць.

Прайшло яшчэ некалькі дзён. І вось аднойчы раніцай...

— Ляцім! Мы ляцім на зямлю! — весела кружылася першая сняжынка.

— Знайшла чаму радавацца! — незадаволена прагаварыла другая.



Але нічога не зробіш. І разам з сяброўкай другая сняжынка павольна апускалася ўніз. Зямля ўсё бліжэй, бліжэй... Раптам бачыць — дрэва стаіць. Сняжынка ўпала якраз на сучок і зачапілася за шурпатую кару гэтага дрэва. Аж уздыхнула з палёгкай: хоць і не надта высока, а ўсё ж не на зямлі!

Потым падзьмуў вільготны вецер. З усяе сілы трымалася сняжынка за сучок, каб толькі не ўпасці. Там, на сучку, і растала — як і на свеце яе не было.

А першая сняжынка спакойна ўпала на зямлю. Злілася з мноствам іншых сняжынак. Белым дыванам накрылі яны зямлю. Засланілі яе ад лютых маразоў.

Жыла сняжынка не адзін дзень — усю доўгую зіму.

А калі прыйшла вясна, яна растала, ператварылася ў кроплю вады. Вада напаіла некалькі пясчынак. І на тых пясчынках вырас жытнёвы каласок.

1. Які настрой узнік у вас пры чытанні твора? Чаму?
2. Што нагадвае гэты твор? Чаму вы так думаеце?
3. Аб чым марылі сняжынкі-сяброўкі? Прачытайце.
4. Куды ўпалі сняжынкі?
5. Дзе правяла зіму першая сняжынка?
6. Што здарылася з другой сняжынкай?
7. Як вы думаеце, якая са сняжынак пражыла больш шчаслівае жыццё? Чаму?
8. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання размовы сняжынак па асобах.

# Зіма

***Пятро Прыходзька***



На рацэ зіма з разбегу
Ў лёд скавала берагі,
Насыпае горы снегу
На палеткі і лугі.
Спяць спакойна пчолы ў вуллі
Між заснежаных алей.
Дрэвам на прасторах вуліц
Пад сумётамі цяплей.
Хай вакол зіма мяцеліць,
А як сыдзе снег з палёў,
Будзе зноўку ўсюды зелень
Прабівацца з каранёў.

**Сумёты** — намеценыя ветрам гурбы снегу.

1. Якія малюнкі прыроды адлюстраваў у вершы паэт?
2. Чаму «дрэвам ... пад сумётамі цяплей»?
3. Ці даводзілася вам бачыць і адчуваць тое, пра што напісаў паэт?
4. Якія фарбы выкарысталі б вы, каб намаляваць карціну да верша?
5. Прачытайце верш яшчэ раз самі сабе і падрыхтуйцеся да выразнага чытання.
6. Як будзе мяняцца інтанацыя пры чытанні верша ўголас?

# Загадка

***Уладзімір Мацвеенка***

Што за маленькая птушка
Апусцілася на вушка,
Ледзь чутно паказытала,
Штосьці вушку пашаптала,
І праз міг яе не стала.

Казытáць — выклікаць лёгкае раздражненне, датыкаючыся да скуры.

Прачытайце і адгадайце загадку.

# Неспадзяваная госця

***Уладзімір Юрэвіч***

Бабуля хуценька апранулася і ўзяла вядро. Зграбла ў яго са стала бульбяныя лушпайкі, выйшла за дзверы.

Святланку гэтыя дні яна не выпускала на вуліцу, бо быў надта моцны мароз. У школе не вучыліся ўжо з тыдзень.

Толькі бабуля сышла на другі паверх, як на лесвіцы ёй перагарадзіла шлях нейкае рудое стварэнне. Цялё не цялё і на жарабя не падобнае — хвост кароценькі. Стварэнне гэтае, адвярнуўшы

ўніз галаву, вылізвала поўсць, якая была ўся ў шэрані.

«Што за праява такая?» — збянтэжылася бабуля і ціхенька паклікала:

— Цёх, цёх, цёх...

Над рудым тулавам ураз вырасла маленькая, на доўгай шыі галава. Над галавой вялізныя, настаўленыя ўгару вушы. І жвавыя, такія бліскучыя вочкі.

«Авой, дык гэта ж казуля!» — пазнала нарэшце бабуля ў гэтай дзівоснай жывёліне прыгажуню тутэйшых лясоў.

— Як жа ты, козачка, прыблукала? — запыталася ўголас бабуля і ўспомніла, што іхняя вуліца ўпіраецца за гародам проста ў лес. Тут жа недалёка.

А казуля тым часам тыцкала ўжо пысай у вядро, прагавіта лавіла языком бабуліны лушпайкі.

— Ну, хадзем, хадзем, — запрашала бабуля госцю, паднімаючыся назад, — я цябе накармлю...

Казуля, жуючы на хаду лушпайкі, падалася за бабуліным вядром па лесвіцы вышэй.

Бабуля пазваніла. Святланка адчыніла дзверы — і вачам сваім не верыць. Як у казцы, стаіць перад ёй бабуля з вядром, а побач на цыбаценькіх ножках рудая, у белых плямах козачка.

— Прымай, Света, неспадзяваную госцю, — кажа бабуля. — Гэта ж на лесвіцы пераняла мяне і не пускае. Казуля гэта. Маразы прыгналі яе ў горад, да людзей.

Казуля, усё жуючы лушпайкі, пераступіла за парог.

— Ой, бабуся! — усклікнула Святланка. — Якая яна прыгожая! Хай будзе ў нас, хай жыве.

Казуля ад гэтага воклічу схамянулася. Хацела падацца назад, але дзверы зачыніліся, і госцю правадзілі ў ванны пакой. Казуля ўсё нюхала, хмыкала і раптам, убачыўшы, як з крана цурчыць вада, пацягнулася да яе, каб напіцца.

— Бабуся! — крычыць Святланка. — Казуля ваду халодную п’е. Яна ж прастудзіцца.

— Не бойся, унучка... — кажа бабуля, несучы ў руках вялізную міску. — Не прастудзіцца, яна за-



гартаваная. На вось, набяры ў міску вады, хай п’е. Здарожылася, бедная.

І бабуля пачала гладзіць доўгую казулі́ну шыю. Асмелілася і Святланка, дакранулася да спіны. Яна цёплая, толькі мокрая. Дзяўчынка гладзіла казулю, прыгаворваючы:

— Харошая мая, прыгожая мая…

Бабуля тым часам схадзіла ў пакой, дзе стаяў яе ложак. Яна кожны год, калі прыязджае на зіму да ўнучкі, прывозіць з вёскі сена, каб набіць сянні́к. На матрацы спаць не любіла. Бабуля наскубла ў фартух духмянага сена і, вярнуўшыся ў ванну, паклала яго ў ракавіну ўмывальніка.

Казуля кінула піць, павярнула галаву да сена, панюхала яго і пачала хрумстаць. Так апетытна, што ажно Святланцы хацелася пакаштаваць казулін сняданак.

Святланка і карміла, і паіла, і гладзіла казулю. Павязала нават на шыю ёй ружовы капронавы бант. Казулі непрывычны быў той бант. І яна падгінала галаву, высоўвала язык і намагалася дастаць канцы стужкі. А Святланка глядзела на ўсё гэта і ажно заходзілася ад смеху.

А калі казуля выходзіла ў пакой, дык сваім капыткамі стукала па падлозе, нібы ту́флямі на тонкіх абцасах. Ёй цяжка было трымацца на коўзкім паркеце, ногі раз’язджаліся ў бакі, і казуля выкідвала такія конікі, што і не прыдумаеш ніколі. Усе

смяяліся з яе выкрунтасаў, а найбольш весялілася Святланка.

Чатыры дні гасцявала казуля, пакуль не з’ела ўсё сена з бабулінага сенніка. Давялося-такі бабулі перайсці спаць на паралонавую канапу.

Тым часам адваліліся маразы. Тата збіраўся ў камандзіроўку недзе ў раён і забраў казулю з сабой у службовы аўтобус. Калі яны ўехалі ў лес, тата выпусціў казулю з аўтобуса. Прыгажуня пацягнула моцна паветра, павярнула галаву ў адзін бок, потым у другі, глянула на аўтобус і подскакам памчалася ў гушчар.

Святланка доўга сумавала па казулі, але бабуля яе ўсё ж суцешыла.

— У гасцях добра, а дома ж лепей, — прыгадала бабуля прыказку і растлумачыла: — Калі жывёла на волі вырасла, дык чужы дом ёй — што турма. Казулін дом у лесе. Ёй там прывольна.

---

**Прая́ва** — незвычайнае здарэнне; з’ява, праяўленне.

**Лушпа́йкі** — адходы пасля ачысткі бульбы, семя.

**Пы́са** — пярэдняя частка галавы (з губамі і ноздрамі) жывёліны.

**Схамяну́цца** — здрыгануцца.

**Сянні́к** — матрац, набіты сенам ці саломай.

1. Чым уразіла вас гэта апавяданне?
2. Якую «праяву» сустрэла бабуля на лесвіцы?
3. Як апынулася козачка ў доме? Прачытайце.
4. Як «неспадзяваная госця» паводзіла сябе ў гарадской кватэры?
5. Чым кармілі козачку?
6. Чаму яна гасцявала толькі чатыры дні?
7. Куды адвёз казулю тата? Як да гэтага паставілася Святланка? Зачытайце.
8. У апошнім абзацы знайдзіце і прачытайце прыказку. Адкажыце, як вы разумееце яе сэнс.
9. Падзяліце тэкст на часткі, вызначце галоўную думку кожнай з іх. Падбярыце да кожнай часткі загаловак.
10*. Складзіце працяг твора пра прыгоды казулі.

## Новы год

***Мікола Чарняўскі***



Пасінеў на рэках лёд,
Неба ў ясных зорках,
Зноў прыйшоў к нам
Новы год
З песнямі і ёлкамі.

Водзіць з намі карагод
Сам Мароз-дзядуля,
Многа казак у яго
І вясёлых гульняў.

1. Пра якое свята ідзе гаворка ў вершы?
2. Якія радкі тэксту перадаюць радасны настрой?
3. Хто водзіць карагод? Пацвердзіце сваё выказванне словамі з тэксту.
4. Як праводзілася свята ёлкі ў вас у школе (дома)?
5. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання твора.

## Лесавічок

***Рыгор Ігнаценка***

Палявалі мы ў гэты дзень на багатых дзічынай Валожынскіх перавалах. Заблудзіўшы ў лесе, я не менш быў рады сустрэчы з чалавекам, чым Рабінзон Круза на пустэльным востраве.

І вось такая сустрэча адбылася. З-за павароту лясной дарогі выкаціўся насустрач мне гадоў дзевяці хлапчук. Ён быў у чорных валёнках і насунутай на вочы вушанцы. Усім сваім выглядам ён нагадваў таёжнага мужычка-лесавічка.

— Як мне адгэтуль, хлопчык, у Зялёнае Вяззе трапіць? — пытаю я.

— Пойдзем, пакажу, — упэўнена, як бывалы чалавек, адказаў ён.

Па дарозе я даведаўся, што Васілёк — так звалі майго новага знаёмага — сын лесніка, які жыве недалёка адгэтуль.

— Напэўна, абед бацьку ў лес нясеш? — пацікавіўся я, заўважыўшы ў руцэ хлопчыка маленькую кужэльную торбачку.

— Не, — адказаў ён. — Абед, але не бацьку.

— А каму ж?

— Курапаткам.

— А ці многа курапатак да тваёй кармушкі прылятае? — пытаюся ў хлапчука.

— Штук пятнаццаць.

— І што ж ты ім даеш?

— Усё тое, што і курам. Але асабліва яны грэчку любяць.

— Грэчку, кажаш?

— Нарасхват дзяўбуць!

За размовай мы не заўважылі, як падышлі да маленькага ляснога яра.



— Вось бачыце, колькі іх сабралася там, — паказаў Васілёк рукой наперад.

На схіле яра я ўбачыў з дзясятак натапыраных шэрых курапатак. Калі мы падышлі бліжэй, птушкі ўзняліся і паляцелі ўздоўж яра.

— Гэта яны вас спалохаліся, — растлумачыў Васілёк.

У яры, пад кустамі алешніку, я заўважыў некалькі маленькіх буданчыкаў.

— Гэта такія кармушкі? — здзівіўся я. — А хіба не ўсё роўна: у такую кармушку сыпаць ці проста на снег?

— Вядома, не. Корм снегам не так замятае.

Мне нічога не заставалася, як згадзіцца. Адышоўшы з паўсотні крокаў, я азірнуўся. Маленькі лесавічок сыпаў у адзін з буданчыкаў прынесены птушкам корм.

Яр — роў, лагчына.
Буда́н — шалаш з галін або саломы для часовага жылля.
(Вало́жынскі) перава́л — месца пераходу праз узгоркі.

1. Ад чыйго імя вядзецца апавяданне?
2. Якую дапамогу аказваў хлопчык птушкам зімой?
3. Што ён ведаў пра курапатак?

4. Апішыце словамі хлопчыка-лесавічка.
5. Чаму аўтар даў апавяданню назву «Лесавічок»?
6. Як вы разумееце значэнне выразу «выкаціўся насустрач»?
7. Прачытайце твор і падзяліце яго на часткі па плане.

План

1) Паляванне.
2) Сустрэча з хлопчыкам.
3) Размова з Васільком.
4) У лясным яры.

8. Перакажыце тэкст па плане.
9. Якую дапамогу вы аказваеце птушкам зімой? Раскажыце.

## Дзеці і зіма

*Станіслаў Шушкевіч*

Да цябе прыбеглі гуртам мы,
У цябе пытаемся, у зімы:
— Ты куды падзела кветкі і мурог,
Ты куды схавала дзеразу і мох?
Ты чаму заснежыла поле і лясы,
Дзе багун і папараць, верасы?
— Ах, мае вы смешныя! Так, як вы,
Не кранала кветак я і травы,
Не зрывала папараць і багун:
Я ўсё ад холаду берагу.



Кветкам і травіцы сняцца сны —
Я прыкрыла шчыльна іх да вясны,
Ткала коўдру белую я сама...
Пэўна, у вас пытанняў больш няма?

**Дзераза́** — травяністая расліна сямейства дзеразовых з паўзучым сцяблом.

1. Аб чым пыталіся дзеці ў зімы? Зачытайце адпаведныя радкі.
2. Што зіма адказала дзецям? Знайдзіце адказ і зачытайце.

3. Як зіма паводзіла сябе ў адносінах да жывой прыроды?
4. Растлумачце выраз «ткала коўдру белую я сама».
5. Прачытайце верш самі сабе і падрыхтуйцеся да выразнага чытання ўголас.
6. Прачытайце верш па ролях.

## Рысь у лазні

***Іван Галубовіч***

Старэнькі аўтобусік, натужліва вуркочучы, паціху аддаляўся ад гарадка. Праз гадзіну на прыпынку «Бярозавы гай» я вылез з яго і агледзеўся. У снежным полі, як галодны воўк, скуголіў вецер, шпурляючы ў твар сухія камякі снегу. Ад «Бярозавага гаю» да невялічкай, затуленай з усіх бакоў спрадвечным лесам вёсачкі, дзе жыве дзядзька Ігнась, чатыры вярсты. Сёння з дзядзькам Ігнасем будзем паліць лазню.

Падняў на плячо рукзак і рушыў па цаліку, час ад часу збіваючыся са сцежкі і правальваючыся па калені ў снег. Наперадзе нічога не было відаць: ні лесу, ні старога закінутага хутара, які заўсёды быў маім арыенцірам. Гуляла мяцеліца. Зімовы дзянёк — што камароў насок. Пакуль прыйшоў у вёску, добра звечарэла. На небе дзе-нідзе праглядвалі буйныя зоркі. У хаце гарэў агонь. Я ўвесь бе-

лы, абмяцелены, як здань, не стукаючыся, адчыніў дзверы.

— Нічога, нічога, — сказаў дзядзька Ігнась і ступіў мне насустрач, дапамог зняць з плячэй рукзак, бо пальцы мае зледзянелі і не слухаліся.

— Калі не будзе зімою бела, то не будзе ўлетку зелена, — гаварыў ён, дапамагаючы мне распранацца. — Думаў, што і не прыедзеш сёння. Але нічога, нічога... Самы раз. Дровы сухія, вады нядаўна нанасіў.

Праз нейкі час выйшлі з хаты і накіраваліся да лазні, якая стаяла за гумном, непадалёк ад лесу. Падышлі. Дзядзька Ігнась намацаў рукою выключальнік, пстрыкнуў ім, і мы падаліся ў лазню. Зайшлі — і аслупянелі. Хачу сказаць: «Дзядзька Ігнась, уцякайма», а языком павярнуць не магу, як праглынуў яго ўсё роўна.



На шырокім дубовым палку́, на тым самым месцы, дзе мы кожны раз лупцаваліся пахучым бярозавым венікам, цяпер галавой да нас ляжала рысь — вялікая дзікая кошка. Вочы жоўтыя, злыя, вушы вострыя, з кутасікамі на канцах.

— Ацю! Ацю! — раптам крыкнуў дзядзька Ігнась і схапіў ля печы палена.

Рысь падхапілася на ногі, прыгнулася — і скокнула... Я не паспеў адхінуцца ўбок: моцны ўдар у грудзі паваліў мяне на падлогу. Калі крыху ачухаўся, дзядзька Ігнась сказаў:

— Прабач, гэта я ва ўсім вінаваты. Вечарам, калі насіў у лазню ваду, пэўна, забыўся зачыніць дзверы.

— Можа, і рысь папарыцца хацела, — пажартаваў я.

— Будзем паліць лазню? — азваўся дзядзька Ігнась.

— А як жа. Страх трэба змыць.

Хутка ў печы яркім полымем загарэліся дровы.

**Цалі́к** — няходжаная, няезджаная прастора, звычайна снежная.

**Кута́сікі** — пучкі шчацінак-валаскоў на канцы вушэй у рысі.

**Здань** — створаны ва ўяўленні вобраз таго, чаго ў сапраўднасці няма; прывід.

1. Што вам падалося дзіўным у гэтым апавяданні? Прачытайце або раскажыце сваімі словамі.
2. Як рысь апынулася ў лазні?
3. Апішыце знешні выгляд рысі, карыстаючыся словамі тэксту.
4. Як вы разумееце выраз «Зімовы дзянёк — што камароў насок»? Знайдзіце і прачытайце яшчэ адну прыказку ў тэксце. Растлумачце яе сэнс.
5. Якімі радкамі тэксту можна падпісаць ілюстрацыю? Прачытайце.
6. Прачытайце апавяданне моўчкі і падрыхтуйцеся да выразнага чытання ўголас.



## На санках

*Кастусь Кірэенка*

Які сягоння
коўзкі снег!
Як лёгка
з ветрам дужацца!
Нішто не спыніць
санак бег,
хоць і галовы кружацца...
Няхай сняжынкі ў вочы б'юць
і маразы
сярдуюцца!
а санкі полазам пяюць,
і холаду
не чуецца...

Імчым з гары,
ляцім з гары.
З дарогі, гурбы снежныя!
Уся зямля
для дзетвары —
у гэты дзень — бязмежная!..

**Ко́ўзкі** — зусім гладкі, слізкі.

1. Якім настроем прасякнуты гэты верш?
2. Знайдзіце ў вершы незразумелыя словы і выразы, пастарайцеся растлумачыць іх сэнс, зыходзячы са зместу.
3. Выберыце і прачытайце тыя радкі, дзе гаворыцца, як дзеці катаюцца з гары.
4. Якой вы сабе ўяўляеце карціну катання дзяцей з горак? Намалюйце словамі.
5. Разгледзьце ілюстрацыю. Якімі словамі з верша можна падпісаць яе?
6. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання твора.

## Лыжы

***Клаўдзія Каліна***

I

У маленькім завулку вялікага горада стаяў чырвоны цагляны домік. У ім жылі па суседству дзяўчынка Ніна і хлопчык Сеня.



Аднаго разу Ніна і Сеня сядзелі каля акна і пазіралі на двор. За акном пушынкамі падаў снег. Белы дыван заслаў увесь завулак. Плот і веснічкі надзелі мяккія пушыстыя шапкі. А снежныя матылькі ўсё кружыліся і кружыліся...

— Эх, як добра было б пакатацца! — уздыхнула Ніна.

Але як гэта зрабіць? У яе ёсць лыжы, але на іх парваліся раменьчыкі, ды і палак няма.

— Ведаеш што, Ніна, я адрамантую твае лыжы, а ў мяне ёсць палкі, будзем катацца. Добра? — прапанаваў Сеня.

— Добра, — адказала дзяўчынка.

Так у Ніны і Сені з'явіліся лыжы. Дзеці хадзілі ў школу ў розныя змены, дык Сеня катаўся зранку, а Ніна — пасля абеду.

## II

Усё ішло добра. Але вось настала зімовыя канікулы. Аднойчы ім захацелася абаім пакатацца зранку. А лыжы адны. Заспрачаліся, і ніхто з іх не захацеў уступіць.

Дзяўчынка казала, што лыжы яе, а Сеня даводзіў сваё:

— А хто іх адрамантаваў? А палкі чые?

Раззлаваўшыся, яны пачалі вырываць адно ў аднаго лыжы. Пасля хлопчык адарваў раменьчыкі, забраў свае палкі і пайшоў дадому.

## III

Стаяць у калідоры ў адным кутку лыжы з адарванымі раменьчыкамі, а ў другім — палкі.

Прыйшлі з работы іхнія мамы, паглядзелі на сваіх дзяцей і зразумелі, за што не паладзілі дзеці. Узялі лыжы і закінулі на гарышча.

Сядзяць хлопчык і дзяўчынка дома і глядзяць праз акно на двор. А снег вялікімі пушынкамі ўсё ляціць, усё падае.

Сеня моўчкі ўстаў і палез на гарышча. Дастаў лыжы, схаваўся у дрывотні і пачаў зноў прыладкоўваць раменьчыкі. Зрабіў як след, памазаў іх, каб добра слізгацелі.

«Пайду скажу Ніне, што зноў лыжы спраўныя. Няхай ідзе першая пакатацца», — падумаў хлопчык.

## IV

Але дзяўчынкі дома не было. Тады Сеня пайшоў да яе сяброўкі і, не знайшоўшы там Ніны, вярнуўся дахаты, каб узяць лыжы ды пакатацца самому.

Глянуў, а лыж няма. Не разумеючы, куды дзеліся лыжы, ён, засмучаны, паплёўся на горку. І раптам бачыць, што на горку ўзбіраецца Ніна на лыжах.

— Ну, я ж табе пакажу! — гукнуў раззлаваны Сеня.

Але дзяўчынка была высока на горцы і не пачула пагрозы. Яна лёгка адштурхнулася і віхрам зляцела ўніз.

У хлопчыка аж дух заняло.



«Вось гэта здорава!» — падумаў Сеня.

Тут Ніна крута развярнулася і памчалася па снежным полі. Сеня нават забыўся на сваю пагрозу і, калі дзяўчынка параўнялася з ім і хацела аддаць лыжы, сказаў:

— Не трэба. Катайся, а я пасля...

Ніна ўсміхнулася і пачала ўзбірацца на горку.

Дрыво́тня — хлеў або павець для дроў.
Ве́снічкі — вузкія дзверы ў плоце; варотцы.

1. Чым спадабаўся вам твор?
2. Як у Ніны і Сені з'явіліся лыжы?
3. З-за чаго ў дзяцей узнікла спрэчка?
4. Чаму дзеці сядзелі дома?
5. Што вырашыў зрабіць Сеня?
6. Чаму хлопчык не забраў у Ніны лыжы?
7. Прыдумайце загалоўкі да кожнай часткі апавядання.
8. Прачытайце і перакажыце тую частку апавядання, якая вам найбольш спадабалася.

## ПРЫКАЗКІ

- *Лёгка пасварыцца, цяжка памірыцца.*
- *Любіш узяць, любі і даваць.*
- *Добра зробіш, добра і будзе.*
- *Як аукнецца, так і адгукнецца.*

# Песні зімы

*Якуб Колас*



Люблю я зімы з маразамі,
Завеі белыя ў палях,
І снегу скрып пад палазамі,
І ціш зімовую ў лясах.

Люблю я ветру спеў гаротны
Ў сялянскіх комінах пустых,
На полі белыя палотны —
Абрусы хмарак снегавых,

Што засцілаюць лугавіны
І далі ціхія палёў.
Мне любы елкі і хваіны
Пад белай посцілкай снягоў.

**Гаро́тны** — тут: сумны, маркотны.

1. Як паэт адносіцца да зімы? Якія словы выкарыстоўвае Якуб Колас, каб перадаць сваю любоў да гэтай пары года?
2. Раскажыце, за што вы любіце зіму.
3. Прачытайце верш самі сабе, а потым уголас.
4. Вывучыце верш на памяць.

# Зайцаў кажушок

*Казка*

***Расціслаў Бензярук***

У лес прыйшла зіма, а з ёю — маразы і сцюжа. Усе зайцы надзелі белыя кажушкі. Цёпла.

Толькі адзін Малады Заяц яшчэ ў шэрым скача. Скача і дрыжыць ад холаду. Заўважыў гэта Стары Заяц і прынёс кажушок.

— На, пераапраніся, цяплей будзе.

Зарадаваўся Малады Заяц, надзеў новы кажушок, а стары пад ядлоўцавы куст закінуў.

— Павесь на відным месцы, каб потым не прыйшлося шукаць, — напомніў Стары Заяц, але Малады махнуў толькі лапкай:

— Калі яшчэ тая вясна!

Ішлі дні за днямі, і не агледзеўся Малады Заяц, калі вясна ў лес прыйшла. Усе зайцы знайшлі сваё адзенне і адразу парыжэлі, скачуць вясёлыя. Адзін толькі Малады Заяц ніяк не можа ўспомніць, пад які куст свой кажушок кінуў. Горача яму ў лесе.

Забіўся Малады Заяц пад дрэва, хацеў адпачыць у цяньку, а паджары, галодны пасля зімы Воўк тут як тут. Стаіць, зубамі ляскае.

Кінуўся Заяц наўцёкі, а Воўк кажа:

— Не ўцячэш. Белага ўсюды відаць.

Бег-бег Заяц, пакуль не стаміўся. Прысеў перавесці дух, паглядзеў вакол, і здалася яму знаёмай гэта мясціна.



«Ці не тут я свой кажушок пакінуў? — падумаў ён. — Трэба пашукаць, пакуль Воўк не дагнаў».

Зазірнуў Малады Заяц пад ядлоўцавы куст, а там — кажушок. Хуценька схапіў яго, апрануўся і прытаіўся.

А тут і Воўк на паляну выскачыў.

— Дзе ж гэта Заяц падзеўся? Толькі што тут быў... — кінуўся шукаць.

А да Маладога Зайца падышоў Стары:

— Хай табе гэта будзе навукай на ўсё жыццё. Запамінай, дзе ўвосень кладзеш свой кажушок, тады вясной лёгка знойдзеш.

А той і сам ужо зразумеў гэта.

Паджа́ры — тут: худы.
Переве́сці дух — аддыхацца, зрабіць перадышку ў чым-небудзь.

1. Якая гэта казка (сумная, вясёлая, сур'ёзная, жартаўлівая)? Вызначце яе настрой.
2. Чаму з надыходам зімы ўсе зайцы пераапрануліся?
3. Якім вы ўяўляеце Маладога Зайца? Якімі словамі можна яго ахарактарызаваць?
4. Якой парады Старога Зайца Малады Заяц не паслухаўся?
5. Што хацеў зрабіць з Маладым Зайцам Воўк?
6. Ці ўдалося яму здзейсніць сваю задуму?
7. Які наказ даў напаследак Маладому Зайцу Стары Заяц?

## Зімой вясна

*Авяр'ян Дзеружынскі*

У класе ў нас зімой вясна,
За вокнамі — вятры, завеі,
А тут у беленькіх гаршках
Сінеюць кветкі, ружавеюць.

Старанна даглядаем іх
І поім чыстаю вадою.
Фіялкі пышна расцвілі
Зімой, як ранняю вясною.



1. Якія пачуцці выклікаў у вас гэты верш? З якім настроем пісаў гэты верш аўтар? Чаму вы так думаеце?
2. Чаму расцвілі кветкі зімой?
3. Якія кветкі растуць у вашым доме (класе)? Ці цвітуць кветкі зімой? Як вы іх даглядаеце?
4. Прачытайце верш спачатку самі сабе, а потым выразна ўголас, перадаючы настрой паэта.

## Няверка

***Алена Кобец-Філімонава***

Жыў на свеце хлопчык Няверка. Ён усім хлусіў. І таму сам нікому не верыў. І праз гэта трапіў у бяду. І вось як.

Пайшоў Няверка ў суседнюю вёску да свайго сябра. Ідзе ён полем і раптам бачыць: зае́чая галава з-пад снегу тырчыць, а з вачэй буйныя слёзы коцяцца. Убачыў Заяц Няверку і просіць яго:

— Няверка, Няверка, дапамажы мне. Пакуль я спаў, мяне засыпала снегам. І мне цяжка выбрацца самому.

А Няверка адказвае:

— Не будзь гультаём, дык і сам выберашся.

І пайшоў Няверка далей. А насустрач яму Сабачка бяжыць. Спыніўся Сабачка і кажа:

— Няверка, Няверка, дай мне кавалачак хлеба, я вельмі есці хачу.

Але Няверка не паверыў Сабачку і не даў яму хлеба, хоць у кішэні вялікі кавалак ляжаў. І пайшоў Няверка далей. А дарога — праз лес. Увайшоў ён у лес, а тут мяцеліца пачалася і замяла дарогу. Няверка заблудзіўся і ніяк не можа з лесу выйсці.

І тут з дупла выглянула Вавёрка. Убачыла яна Няверку і пытае у яго:

— Што ты тут робіш, Няверка?

А Няверка адказвае:

— Я заблудзіўся. Дапамажы мне дарогу знайсці.

Паказала яму Вавёрка дарогу. А Няверка падумаў, падумаў ды і пайшоў у другі бок: не паверыў Вавёрцы.

Ходзіць ён па лесе, а лес усё гусцее і цямнейшым робіцца. Тады Няверка пашкадаваў, што не паслухаў Вавёркі. Вось ужо вечар, а Няверка ўсё па лесе блукае. Страшна яму стала, і ён заплакаў.



Раптам бачыць Няверка: Заяц скача. Той самы, якога снегам засыпала. Заяц таксама ўбачыў Няверку і пытае ў яго:

— Чаго ты плачаш, Няверка?

А той адказвае:

— Я заблудзіўся.

— Ідзі за мной, — сказаў Заяц і паскакаў.

А Няверка пайшоў па яго слядах. Даскакаў Заяц да поля, за якім вёска была відаць, і зноў у лес павярнуў. А Няверка праз поле ў вёску пайшоў. А снегу ў полі па калена! Стаміўся Няверка па глыбокім снезе ісці. Сеў у гурбу, каб адпачыць, і пачаў засынаць. А тут мароз нанач бярэцца!

Яшчэ крыху — і замёрз бы Няверка. Ды Сабачка яго выратаваў. Той самы, якому ён хлеба не даў. Падбег ён да Няверкі, лізнуў у твар і кажа:

— Прачніся, Няверка, бо замерзнеш.

Але Няверка не мог ужо ўстаць. Тады Сабачка схапіў яго за каўнер і пацягнуў па полі.

Прачнуўся Няверка ў стозе сена, куды яго прыцягнуў Сабачка. Убачыў хлопчык Сабачку. Прыгадаў, як не паверыў яму, што той галодны быў, прыгадаў і тое, як не дапамог Зайцу выбрацца з-пад снегу і як не паслухаў Вавёрку. І сорамна яму зрабілася. Ён хуценька выняў з кішэні хлеб і аддаў яго Сабачку.

З той пары Няверка верыць усім, хто ў бяду трапіць, і дапамагае ім.

1. Хто з герояў казкі вам спадабаўся? Чым?
2. Чаму галоўнага героя казкі завуць Няверка?
3. Каму не дапамог Няверка? Прачытайце.
4. Чаму не паверыў хлопчык Вавёрцы? Аб чым ён пашкадаваў, калі заблудзіўся?
5. Што зрабіў Заяц, каб выратаваць Няверку?
6. Хто не даў замерзнуць хлопчыку?
7. За што Няверку зрабілася сорамна?
8. Падзяліце тэкст на часткі і падрабязна перакажыце адну з іх.
9*. Складзіце сваю зімовую казку.

## Зіма

***Мікола Хведаровіч***



Ля хат высокія сумёты,
Пад снежнай коўдрай
спяць палі.
Вятры бяздомныя ля плота
З віхурай песню завялі.

Замоўклі белыя прасторы,
Змарыў іх ціхі зімні сон,
Малюе срэбныя ўзоры
Зіма на шыбінах акон.

І лес, ад інею касматы,
Укрыўся снежным дыванам.
Стаяць у цёплых шапках хаты,
Абліты месячным святлом.

1. Чым прыгожая зіма? Як пра гэта піша паэт?
2. Якія радкі ў вершы вам асабліва спадабаліся? Прачытайце іх уголас.
3. Пра якія змены ў прыродзе расказвае паэт? Пацвердзіце сваё выказванне словамі з тэксту.
4. Патлумачце наступныя радкі верша:

*Стаяць у цёплых шапках хаты,*
*Абліты месячным святлом.*

5. Разгледзьце ілюстрацыю. Якімі словамі з верша можна яе падпісаць?
6. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша.

## ПРЫКАЗКІ

- *Студзень — году пачатак, а зіме — сярэдзіна.*
- *Люты багаты снегам, а красавік — вадою.*
- *Зіма на лета працуе, а лета на зіму.*
- *Пакармі птушак зімой — яны аддзячаць табе вясной.*
- *Снегу навее — хлеба прыбудзе, вада разальецца — сена набярэцца.*

1. Прачытайце прыказкі. Паразважайце, пра што яны.
2. Якая з прыказак вам найбольш падабаецца?
3. Знайдзіце ў раздзеле апавяданне, якое можна суаднесці з адной з гэтых прыказак.

# Загадкі

*Алесь Якімовіч*



Звер вядомы ён усім —
І старым і дзецям.
Футра цёплае на ім,
А завуць ... .



Сама пушыстая,
Футра залацістае.
У лесе жыве,
У вёсцы кур крадзе.



Улетку і ўвосень шэранькі,
Узімку беленькі.
Доўгія вушы мае,
Хутка ў лес уцякае.

1. Прачытайце і адгадайце загадкі.
2. Назавіце словы, якія рыфмуюцца.
3*. Складзіце загадку пра дзікую жывёліну.



1. Разгледзьце малюнак.
2. Складзіце невялікае апавяданне з апорай на гэты малюнак. Пачніце так: «Зіма — сапраўдная чараўніца! Яна ўмее рабіць усё вакол нас казачна прыгожым!..»
3. Дайце тэксту загаловак.

## ЧЫТАЕМ, АБАГУЛЬНЯЕМ, ПРАВЯРАЕМ СЯБЕ ПА РАЗДЗЕЛЕ
### «Ляжыць зямля ў адзенні белым, і дрэвы ў шэрані стаяць».

1. Назавіце творы, у якіх гаворыцца пра гульні дзяцей зімой. Падрыхтуйцеся выразна прачытаць адзін-два ўрыўкі з іх.

2. З якіх вершаў узяты гэтыя радкі?

а) *«Адамкнула*
*Ўсе замочкі*
*Ў небе ім*
*Сама зіма».*

б) *«На рацэ зіма з разбегу*
*Ў лёд скавала берагі».*

в) *«Ніхто не спыніць санак бег,*
*хоць і галовы кружацца...»*

3. Успомніце вершы пра зіму, якія вы чыталі. Падрыхтуйцеся да чытання на памяць свайго любімага верша. Хто яго напісаў?

4. Прачытайце верш, радкі якога аўтар «забыўся дапісаць». Закончыце гэтыя радкі так, каб атрымалася рыфма.

## Зімою

***Мікола Хведаровіч***

Ужо на сонцы снег іскрыцца,
А востры сіверны мароз
Нам шчыпле рукі, шчокі, ...,
Ды хто марозу пабаіцца?!

Звініць паветра зычным смехам,
Ляцім на саначках з гары,
І адгукнецца ў бары
Здалёку радаснае ... .

5. Калі вы падумаеце, то апавяданне прыдумаеце.

Пачаць можна так: *«Пад Новы год ва ўсіх дамах і кватэрах ставяць ёлку і ўпрыгожваюць яе...».*

Раскажыце пра тое, хто ў апошні раз прынёс вам ёлку, адкуль, як вы ўпрыгожвалі яе, як у вас дома сустракалі Новы год.

6. Назавіце творы і прачытайце ўрыўкі з тэксту, якім адпавядаюць гэтыя малюнкі.









# ЯКОЕ ХАРАСТВО — ВЯСНА! ВЯСНЕ МЫ ЎСЕ ЗАЎСЁДЫ РАДЫ...

*Анатоль Астрэйка*



## Вясна прыйшла

***Пятро Рунец***

Скончыліся халады, завеі. Дыхнуў цёплы паўднёвы вецер, разагнаў шэрыя калматыя хмары. На чыстым блакітным небе заззяла веснавое сонца.

Снег пачарнеў, заплакаў і гаманлівымі ручайкамі збег у рэкі і азёры. Вярнуліся ў родны край птушкі, радасна загаманілі ў гнёздах. На дрэвах набраклі пупышкі. Яшчэ дзень-два, яны палопаюцца і з іх пакажуцца зялёныя лісточкі. Трапечуць у паветры матылькі: беленькія, жоўценькія, стракаценькія.

Прыйшла вясна.



Павыбягалі з кватэр дзеці з лапатачкамі, з шуфлікамі, з каляровымі шарыкамі ў руках. Гоман, смех, радасць навокал. Капануў адзін з хлопчыкаў лапатачкай пясок, а там — смецце. Горка пяску — любімае месца ў двары: летась яны тут будавалі хаткі, рабілі пячоры.

— Давайце ачысцім, — кажа Юрка.

— Давайце, давайце! — загаманілі дзеці.

— Яны выбралі з пяску паперкі, каменьчыкі, трэскі. Павыходзілі на двор мужчыны, жанчыны. Усе радуюцца цяплу і сонцу. Толькі і чуеш усюды:

— Вясна прыйшла!

Паглядзелі бацькі на дзяцей дый самі ўзяліся памагаць ім прыбіраць двор. Падмялі, пасыпалі жоўтым пясочкам, і ўсё павесялела навокал.

1. Які настрой узнік у вас падчас чытання твора? Чаму?
2. Пра якія прыкметы вясны напісаў аўтар гэтага тэксту? Прачытайце.
3. Раскажыце, якія яшчэ прыкметы вясны вы заўважылі ў прыродзе.
4. Якімі справамі займаліся дзеці?
5. Як дарослыя дапамагалі дзецям сустракаць вясну?
6. Падзяліце тэкст на часткі. Прыдумайце загалоўкі да кожнай з іх.
7. Перакажыце твор.

## ПРЫКАЗКІ

- *Хто не працуе, таму не шанцуе.*
- *Хто любіць працаваць, той не будзе доўга спаць.*

Прачытайце прыказкі, растлумачце іх сэнс.

## Вясна

***Якуб Колас***

Сонца грэе, прыпякае;
Лёд на рэчцы затрашчаў.
Цёплы вецер павявае,
Хмар дажджлівых нам прыгнаў.



Вось і бусел паказаўся,
Гусі дзікія крычаць,
Шпак на дубе расспяваўся,
Жураўлі ўжо ляцяць.

І зіма, як дым, прапала!
Зелянее луг, ралля.
Як ад болю, ачуняла
Наша родная зямля.

**Ралля́** — узаранае поле.

1. Якія пачуцці ўзніклі ў вас пры чытанні верша?
2. Прачытайце, як прырода рэагуе на прыход вясны.
3. Як вясну сустракаюць птушкі?
4. Ці даводзілася вам бачыць і адчуваць тое, пра што напісаў паэт?
5. Як вы разумееце сэнс двух апошніх радкоў?
6. Прыдумайце слоўны малюнак да кожнага слупка.
7. Вывучыце верш на памяць.

## На рацэ

***Вера Сід***

Ранняй вясною, на трэці дзень крыгаходу, мы гуртам вярталіся дамоў са школы. Набліжаліся да вялікіх парогаў на рацэ, калі раптам дзіўная прыгода прыкавала нашу ўвагу. Амаль на сярэдзіне

ракі мы разгледзелі двух медзведзянят, якія ціснуліся адно да аднаго. Вада бурліла, крыгу кідала, як трэску. Медзведзяняты з жахам пазіралі на каламутную плынь.

Мы не адразу заўважылі на процілеглым беразе мядзведзіцу-маці, якая бегла ўслед за крыгаю. На тым месцы, дзе рака крута паварочвала ўправа, мядзведзіца на імгненне спынілася. Спадзявалася, відаць, што крыгу прыб’е да берага. Ажывіліся і медзведзяняты, рыхтуючыся пакінуць свой ненадзейны плыт. Але крыгу зноў панесла на глыбіню.

Мы беглі і вачэй не спускалі з крыгі. Яна то набліжалася да берага, то аддалялася. Бегла ўслед за крыгаю і мядзведзіца, хоць лес ужо скончыўся і наперадзе паказаліся хаты. Там, на процілеглым беразе, таксама быў пасёлак. А за ім — чыгуначны мост, дзе крыга, напэўна, разаб’ецца аб трывалыя апоры-быкі. Толькі цуд мог выратаваць медзведзянят.

Мы пачалі крычаць. На бераг высыпалі людзі, пачуліся жарты. Але ўсе сціхлі, калі згледзелі мядзведзіцу, якая бегла прама на іх. Яна ўжо нічога не бачыла, акрамя сваіх дзяцей.

Некалькі смельчакоў хуценька спусцілі лодкі на ваду. Цяпер усе глядзелі на іх: хто пераможа — людзі ці магутная стыхія?

Сярод тых, хто адплыў ад берага, мы пазналі паляўнічага Паўла Ключнікава і ягонага сябра Аляксея. Іх лодка пачала абганяць крыгу.

У гэты час мядзведзіца ўбачыла перад сабою натоўп людзей. Яна зараўла і падалася назад. Потым зноў павярнула да людзей і, не звяртаючы ўвагі на іх, пабегла берагам.

Затаіўшы дыханне, мы глядзелі на медзведзянят: ці разумеюць яны, што людзі хочуць іх выратаваць?

Вось Павел, стоячы ў поўны рост, зачапіў крыгу багром. Аляксей застаўся на вёслах, трымаючы лодку так, каб рака не перакуліла яе.

Падплыла якраз і другая лодка — падстрахаваць Паўла і Аляксея.

Як толькі лодка торкнулася ў крыгу, медзведзяняты кінуліся ў процілеглы бок. Частка крыгі схавалася пад вадою. Медзведзяняты спалохаліся вады яшчэ больш, чым людзей, і зноў пасунуліся бліжэй да лодкі. Аляксей падняў з дншча шырокую дош-



ку і паклаў на край крыгі. Адно медзведзянятка паглядзела туды, дзе стаяла маці, і ўзышло на дошку. Другое не адважвалася пайсці ўслед. Гэта магло скончыцца дрэнна для ўсіх, бо набліжаліся да чыгуначнага моста. І медзведзяня, нібы здагадаўшыся аб бядзе, таксама перабралася ў лодку.

Павел адштурхнуў крыгу ад лодкі і памяняў багор на вясло: трэба было як мага хутчэй кіравацца да берага.

Мядзведзіца цярпліва чакала, калі лодка прычаліць. Яна па-ранейшаму не звяртала ўвагі на людзей, сярод якіх былі і паляўнічыя з ружжамі.

Нарэшце каля самага моста Павел першы ступіў на бераг, схапіўшы лодку за нос, пацягнуў на пясок. Побач прыткнулася і другая лодка.

Мы з радасцю ўбачылі, як медзведзяняты выбраліся з лодкі і кінуліся да маці. А неўзабаве іх і след прастыў.

---

**Крыгахо́д** — рух лёду па цячэнні рэк вясной (у час раставання).

**Баго́р** — жалезны крук на доўгай жэрдцы для расцягвання бярвенняў у час пажару, на сплаве лесу.

**Стыхі́я** — магутныя сілы прыроды, якія не падпарадкоўваюцца чалавеку.

**Паро́г** — камяністы папярочны выступ на дне ракі, які паскарае цячэнне.

---

1. Калі адбываліся падзеі, апісаныя ў апавяданні?
2. Як медзведзяняты маглі апынуцца на крызе?
3. Як паводзілі сябе медзведзяняты ў час небяспекі?
4. Якімі словамі аўтар перадае непакой мядзведзіцы? Чаму яна не звяртала ўвагі на людзей?
5. Хто выратаваў медзведзянят? Раскажыце, як гэта адбывалася.
6. Разгледзьце ілюстрацыю. Падпішыце яе словамі з тэксту.



## Сакавік

***Максім Танк***

Спіць, стаміўшыся, вецер
Ля імшарнай крыніцы.
Нішто не варухнецца,
Толькі неба іскрыцца.

Сакавік наступае,
З плеч кажух свой скідае,
Яму горача быццам,
Скінуў і рукавіцы.

Нават шапку-вушанку
Запусціў на асіну,
Дзе сінее на ранку
Ценем цецеравіным.

**Імша́ра** — мохавае балота.

1. Якім Максім Танк малюе ў вершы сакавік? Якія словы для гэтага выкарыстоўвае?
2. Як вы разумееце выразы «Спіць, стаміўшыся, вецер ля імшарнай крыніцы», «Нават шапку-вушанку запусціў на асіну»?
3. Вызначце словы, якія пры чытанні неабходна выдзеліць голасам.
4. Прачытайце верш моўчкі, а потым уголас, захоўваючы пэўную інтанацыю.

## Перад паводкай

***Максім Багдановіч***

Праясняецца пагода,
Бо вярнулася вясна.
Ўсё чакаеш, што прырода
Страпянецца ада сна.

І пад птушы крык і гоман,
Даўшы хвалям вольны ход,
Прыпадыме бацька Нёман
На хрыбце магутным лёд.

Зазвіняць жалобна крыгі,
І бурлівая вада
Снег, размоклы ў час адлігі,
Змые з лугу без сляда.

1. Які час вясны апісаны ў вершы? Пацвердзіце сваю думку словамі тэксту.
2. Знайдзіце вобразныя выразы, якімі паэт малюе крыгаход. Прачытайце іх.
3. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша.

## Сварба

*Казка*

***Цётка***

Пасварыліся Вясна з Зімою, ну і давай адна адной на злосць рабіць.

— Я, — кажа Вясна на Зіму, — не буду з табой шмат гаварыць! За каўнер — і так шпургану, што аж за лясамі ты ў мяне апынешся!

— Маўчы, маўчы, — бурчала Зіма. — Хіба я цябе ў барановы рог заганю, як сцісну, то аж табе вылезуць вочы.

Ну і пачалі адна адной наперакор рабіць. Зіма паўзе з марозам — Вясна лезе з адлігай, і зноў няма парадку. Цярпелі людзі, цярпелі, а пасля давай сход рабіць, давай радзіць, на чыёй тут старане ім стаць. Адны казалі:

— Мы яшчэ не вымалацілі збожжа, не навазілі дроў, не адпачылі пасля летняй працы, хай пабудзе Зіма.

Другія зноў крычалі:

— Вон Зіму! Яна нас памарозіць, мы і так лапці патапталі, кажухі абадралі. Досыць нам яе, хочам Вясны.

І немаведама, як то яно прайшло б на тым сходзе, каб не ўвайшоў старэнькі жабрак і не пачаў жаліцца на Зіму.

Праўда: вушы былі абмарожаны, світка рвана, сам ён дрыжаў ад холаду.

Увесь сход закрычаў у адзін голас:

— Не хочам Зімы! Хай Вясна ідзе да нас!

Бедная Зіма заплакала горка на людзей, слёзкі яе цяклі са стрэх, білі па аблонках (шыбах), разліваліся па зямлі, збягалі ў лужы, з лужаў — у рэчку, з рэчак — у моры, з мораў — у акіяны.

А Вясна смяялася, строілася ў кветкі, гарцавала па палях, песцілася па садах, шчабятала з птушкамі, цалавалася з дзеткамі, аж пакуль не пасварылася з Летам.

Хто цяпер адолее, скажыце, дзеткі, самі.

Адлі́га — пацяпленне пасля марозу.
Сва́рба — спрэчка, сварка.
Жабра́к — той, хто жабруе (просіць міласціну).
Стро́ілася — тут: прыбіралася.

1. Як і чаму мяняўся характар Зімы і Вясны?
2. Чаму сварыліся Зіма з Вясною? Што яны рабілі наперакор адна адной?
3. Чаму бедная Зіма заплакала, а Вясна смяялася?
4. Як вы адносіцеся да дзеянняў Вясны і Зімы?

5. Прачытайце апошні сказ тэксту і адкажыце на пастаўленае ў ім пытанне.
6. Прачытайце казку па асобах. Перадайце інтанацыяй, як паводзілі сябе людзі на сходзе.
7. Чаму казка мае такую назву?
8. Прачытайце казку самі сабе і падрыхтуйцеся да падрабязнага пераказу.

## Вясною

***Пімен Панчанка***

Жылы дрэў напоўніліся сокам,
Ручаі імкнуцца да ракі.
Неба стала чыстым і высокім,
І пяюць вясёлыя шпакі.
Ўсё вясна старанна падлічыла,
Сонцам абагрэла кожны куст,
Паляўнічым прынясла́ дзічы́ны,
Рыбакам расчысціла раку.
На паляне ў светлым пералеску
Расцвілі, налітыя расой,
Сінія падснежныя пралескі
Пад аховай урачыстых хвой.

1. Якія прыкметы вясенняй прыроды паэт апісвае ў вершы? Прачытайце.
2. Што вясна «старанна падлічыла»? Прачытайце.
3. Чаму пралескі аўтар называе «падснежнымі»?
4. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша.

# Кветкі

***Вісарыён Гарбук***

З падскокам бягу па лясной сцежцы. Раптам ля старога пня спыняюся. Быццам нехта кліча: «На мяне зірні!»

Між каранёў, нагрэтых сонцам, падобна маленькаму сонейку, палымнее кветка.

— Дзякуй, што паклікала! Я шукала цябе. Настаўніца сказала: «Будзем складаць гербарый».

Датыкаюся да жоўта-залацістых пялёсткаў.

— Скажы, як цябе завуць?

— Была зіма, — адказвае кветка. — Спала пад снегам. Прачнулася ад ласкі сонечных промняў. Я — Сонечны Зайчык.

— Ты — Сонечны Зайчык? І ўмееш размаўляць?

— Умею, — усміхнуўся Сонечны Зайчык.

Гладжу кветку. Асцярожна-асцярожна. І адчуваю, як трапечацца яна пад маімі пальчыкамі.

— Жыві, Сонечны Зайчык! Я не сарву цябе. Любуйся сонцам. І нас адорвай радасцю.

На палянцы, ля малінніку, нехта зноў кліча. Сярод сухой травы і лісця бачу россып сініх кветак.

— Вы хто? — пытаюся.

— Мы — Сінь Вясенняга Неба. Добра, што ты — наша госця! Падзелімся з табой радасцю.

— Дзякуй, кветкі!

Яшчэ палянка. А на ёй — россып белых кветак.

— Мы — Люстэрачкі Вясенніх Аблачынак, — шалясцяць бялюткія пялёсткі.

Прылятае ветрык. Прыносіць духмяны водар. Я ўдыхаю на поўныя грудзі паветра, бачу вакол сябе россып новых кветак і кажу:

— Вы — Духмяны Водар Вясны!

— Духмяны... Водар... Вясны... — паўтарае рэха.

...У школе я непакоілася. Калі настаўніца спытала: «А дзе, Мілачка, твае кветкі?» — падала ёй сшытак.

Не спяшаючыся, настаўніца чытала назвы кветак, разглядвала мае малюнкі.

— Не магла сарваць... Яны трапяталіся — як жывыя. Ад майго дотыку... — прызналася. — І я намалявала іх. Гэта ж усё роўна?

— Гэта яшчэ лепш! — усміхнулася настаўніца і вярнула мне сшытак. — Табе хто падказаў такія назвы?

— Кветкі.

— Самі кветкі?

— Самі кветкі! — адказала я.

1. Што ў гэтым апавяданні нагадвае вам казку?
2. Як вы думаеце, якія кветкі сустрэла Міла?
3. Чаму дзяўчынка не сарвала іх?
4. За што пахваліла дзяўчынку настаўніца?
5. Якія кветкі вам найбольш падабаюцца? Якія кветкі вы вырошчваеце?

# Маме

***Эдзі Агняцвет***



Калі б магла  
вясёлку з неба зняць,  
я падарыла б маме.  
Каб з хмарак я магла  
дыван саткаць,  
я падарыла б маме.  
І ласку,  
і цяпло на доўгі век  
я падарыла б маме!  
Святло бяроз  
і песеньку малой  
сініцы сінякрылай —  
хачу паднесці ўсё,  
што мне самой  
матуля падарыла.

1. Ад чыйго імя напісаны верш?
2. Якія падарункі хацела паднесці дзяўчынка сваёй маме? Прачытайце.
3. Як вы разумееце сэнс наступных радкоў:

   *...хачу паднесці ўсё,*  
   *што мне самой*  
   *матуля падарыла*?

4. Як дзяўчынка адносіцца да сваёй матулі? Чаму вы так думаеце?

# Дупляначка

***Рыгор Ігнаценка***

Дзьмуў лёгкі веснавы ветрык. Бяроза, пад якой я сядзеў, тонка звінела крыштальным звонам.

Учора прайшоў першы дождж. А ноччу падмарозіла. І дажджавыя кроплі на галінках ператварыліся ў ільдзінкі. Яны біліся адна аб адну і звінелі.

Слухаючы крыштальны звон над галавою, я агледзеўся. Справа ад сябе ўбачыў струхлелую асінку, а ў ёй — дупельца.

Цёмны хвосцік то знікаў у дупельцы, то зноў паказваўся. На зямлю пад асінку сыпалася жоўтая пацяруха.



Вось яно што! Аказваецца, нехта сабе дом будуе. Але хто? Якая птушка можа выдзеўбці дупельца, у якое з цяжкасцю два пальцы прасунеш?

Я падышоў бліжэй, падняў з зямлі сучок і кінуў у асінку. Кінуў, а сам за елачку схаваўся.

Хвосцік імгненна знік. З дупельца выпырхнула птушачка. Села на галінку і спалохана зацінькала.

Гляджу: сініца-гаічка.

Вось ужо не думаў, што сініца цяслярскай справай займаецца. Дзяцел вялікі, дзюба ў яго моцная — сапраўднае долата. А гэта дупляначка сама з арэх, дзюбка слабенькая, тонкая, як шыльца. Аднак таксама ў лясныя цесляры наняла́ся.

Я ціха адышоў ад асінкі, каб не перашкаджаць птушачцы працаваць.

**Цясля́р** — рабочы, які займаецца грубай апрацоўкай драўніны, узвядзеннем драўляных будынкаў, вырабам простай драўлянай мэблі.

**Пацяру́ха** — дробныя сыпкія рэшткі чаго-небудзь.

1. Ад чыйго імя вядзецца апавяданне?
2. Што зацікавіла вас у гэтым творы? Пацвердзіце словамі з тэксту.
3. Пра якую птушачку расказвае аўтар? Што здзівіла яго?

4. Знайдзіце апісанне птушачкі і прачытайце. Супастаўце прачытанае з ілюстрацыяй і паспрабуйце самі апісаць сініцу-гаічку паводле плана.

План

1) Дзе жыве птушачка?
2) Як яна выглядае?
3) Чым корміцца?
4) Якую карысць прыносіць сінічка лесу?

5. Падрыхтуйце падрабязны пераказ тэксту.

## Мой родны кут

*Казка*

***Азіза Ахмедава***

Прыйшла вясна. Птушкі вярталіся з выраю. Усе радаваліся сонцу і цяплу.

Пасеўшы на тэлеграфны провад, паціху размаўлялі паміж сабой Варона і Шэры Верабей.

— Дзіўлюся я, — разважаў Шэры Верабей, — чаму ўсе так радасна сустракаюць пералётных птушак? Людзі для іх нават кватэры будуюць. Уладкоўвайцеся, маўляў, вам тут будзе зручна і ўтульна.

— Я нешта не разумею цябе, — сказала Варона, скасавурыўшы на Вераб'я адно вока.

— А што тут разумець? Увесну і летам жыць няцяжка: надвор'е цудоўнае, усё наўкол квітнее,

корму колькі хочаш! А як толькі надыходзіць восень, уся гэтая пе́шчаная кампанія адлятае ў вырай, зноў, значыць, у цёплыя краіны.

— Праўду кажаш, Шэры Верабей. Мы з табой ніколі не адлятаем у вырай, не пакідаем родны край.

— Вось бачыш, і ніхто нас не сустракае, не будуе нам жыллё.

— Ведаеш, Шэры, кожны раз даю сабе слова, як пачнуцца халады, дык і я палячу ў цёплыя краіны. І кожны раз застаюся.

— Нельга жыць без радзімы,— сказаў Шэры Верабей. — І няма нам чаго рабіць на чужыне.

Пачула іхнюю размову Ластаўка.



— Дарэмна вы нас, пералётных птушак, крыўдзіце. Думаеце, лёгка пераадолець тысячы і тысячы кіламетраў? А колькі нас гіне ў гэтай доўгай і цяжкай дарозе!

— Дык не адлятайце, заставайцеся, як і мы! — усклікнула Варона.

— Адчуеце не толькі цяпло, але і холад, і бяскорміцу, — прамовіў Шэры Верабей.

— Якія ж вы дзівакі, шаноўныя Варона і Шэры Верабей! Думаеце, што нам ахвота ляцець у чужыя краіны? Але так наканавана матухнай Прыродай. Не можам мы зімаваць, усе загінем. Застаняце́ся адны. Няўжо сумаваць без нас не будзеце?

— Будзем, будзем, — у адзін голас закаркала Варона і зачырыкаў Шэры Верабей.

— Вось бачыце, — усміхнулася Ластаўка, — таму мы заўсёды і вяртаемся ў родны край. Мы таксама вельмі любім сваю радзіму.

**Накана́ваць** — загадзя вызначыць.

1. Чым спадабалася вам гэта казка?
2. Якая размова адбылася паміж Варонай і Шэрым Вераб’ём? Чаму яны не пакідалі радзіму?
3. За што пакрыўдзілася Ластаўка? Чаму ёй наканавана ляцець у чужыя краіны? Зачытайце.
4. Прачытайце казку моўчкі і падрыхтуйцеся да чытання тэксту па ролях.

## ПРЫКАЗКІ

- *Кожнай птушцы сваё гняздо міла.*
- *Усюды добра, а дома лепей.*
- *Ідзі ў родны край, там і пад елкай рай.*

Якая з прыказак найбольш падыходзіць да казкі «Мой родны кут»?

## Паслы

***Сяргей Грахоўскі***



Дачакаліся пасла —
З цёплай Афрыкі бусла.
Ён жыхар палескіх сёл,
А ў Алжыры — наш пасол.
Там ён кожны год зімуе,
А як толькі засумуе
Па балотах і лясах,
Прылятае дужы птах
Да ўласнага гнязда,
Хоць вясновая вада
Затапіла ўсе лугі,
Ціхіх рэчак берагі.
А як вецер залютуе,
Бусел дом адрамантуе:
Прынясе трысцё, галінкі,
Поўсць і мяккія былінкі,

Каб не знаць у доме ліха,
Каб выседжвала бусліха
Без трывогі і без страт
Самых дружных буслянят.
Бусел не сядзіць на месцы,
Бо буслісе трэба есці.
Ён з балота прынясе
Пачастункі ёй усе.
Будуць дзеці падрастаць,
Ён навучыць іх лятаць,
А нагоніць восень хмары,
Бусел паляціць у пары
Да наступнае вясны.
Побач — дочкі і сыны
Распластаюць крылы ўшыр,
Рым пабачаць і Алжыр,
А ў красавіку ізноў
Вернуцца ўсе дамоў,
Прыляцяць і дзеці з імі
Да любімае Радзімы.

Алжы́р — дзяржава ў Паўночнай Афрыцы з аднаіменнай сталіцай.

Рым — сталіца Італіі, дзяржавы на поўдні Еўропы.

Пасо́л — тут: прадстаўнік.

1. Чаму Сяргей Грахоўскі назваў бусла паслом у Афрыцы і жыхаром палескіх сёл?
2. Знайдзіце і зачытайце тыя радкі верша, у якіх гаворыцца пра клапатлівасць бусла.
3. У якіх словах заключана галоўная думка твора? Зачытайце гэтыя словы.
4. Прачытайце верш моўчкі. Раскажыце, якія малюнкі ўяўляюцца вам пры чытанні.
5. За што народ любіць буслоў?
6. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша.

## Буслянка на стозе

***Яўген Крамко***

На вуліцы і ў дварах пачуліся дзіцячыя галасы:

— Буслы прыляцелі! Гэй, буслы прыляцелі!..

А яны, нібы зразумеўшы, што іх сустракаюць, то апусцяцца ўніз, то зноў набяруць вышыню і, па-майстэрску рулюючы крыламі, пікіруюць уніз.

«Яны чымсьці незадаволены», — падумаў я і паглядзеў туды, дзе летась была буслянка. Так і ёсць. Няма ўжо той бярэзіны, на якой было гняздо...

Буслы пакружыліся яшчэ і, відаць, упэўніўшыся, што гнязда няма, паляцелі за Нёман, дзе бяскрайнія лугі.

Назаўтра на кроне другой высокай бярозы чарнела барана. Гэта хлопцы-падлеткі, пашкадаваўшы буслоў, знайшлі на двары ў кагосьці старую барану



і зацягнулі яе на бярэзіну. Але буслы чамусьці не захацелі там гняздзіцца. Трохі воддаль, у канцы агародаў, стаяў непачаты, шэры пасля зімы стог саломы, які належаў дзядзьку Рыгору. Буслы не пабаяліся, што паблізу праходзіць сцяжынка да ракі. Наверсе стога яны выграблі ямку, нанасілі сухога пырніку, леташняй травы, ламачча — зрабілі гняздо.

Выйдуць малыя або сама цётка Надзя на свой агарод, а буслы іх вітаюць: адзін кружыцца над агародам, а другі стаіць у гняздзе, услед таму палёту паварочваецца і клякоча, ажно закідваючы галаву.

Неяк уранні пачаў дзядзька Рыгор у агародзе бульбу садзіць. Конь павольна цягне плуг, за плу-

гам ідзе гаспадар, сын ууграбае гной у баразну, цётка Надзя кідае бульбу ў разору. Адзін бусел ходзіць следам за жанчынай, падбірае казюрак у свежай раллі, а другі са стога паглядае на ўсё гэта і клякоча, клякоча!..

Улетку, калі ў гняздзе з'явіліся буслянаты, буслы сачылі, каб у двары каля стога не хадзілі чужыя куры або не з'явіўся суседскі сабака ці кот. Калі няпрошаны госць прыбягаў сюды, бусел злятаў са стога і праганяў чужака. Свае куры дзяліліся з буслямі зернем, а сабака мешанкай.

Потым буслянаты падраслі. Буслінай сям'і стала цесна ў гняздзе, прыйшоў час вучыць дзяцей ляталь. Аднойчы раніцаю, як толькі сонца паднялося вышэй стрэх, бусел пераляцеў са стога на хату. Бусліха стала дзюбай праганяць малых з гнязда. Маладыя буслы не слухаюць маці, топчуцца на гняздзе. Яна дзюбай і крыламі гоніць з гнязда то аднаго, то другога. Час ад часу адзін з моладзі ўзнімаецца над стогам ды хутка садзіцца зноў.

Нарэшце бусліхе ўдалося прагнаць дзяцей з гнязда, і яны адно за адным падаліся да хаты, дзе бусел клёкатам клікаў іх да сябе. Як толькі буслянаты аселі на хатняй страсе, бусліха таксама заклекатала — ад радасці.

Праз некалькі хвілін бусел пачаў таксама то дзюбай, то крыламі зганяць малых з хаты. Хістаючыся, нібы ледзь-ледзь трымаючыся на нагах,

бусляняты прайшлі некалькі крокаў па страсе, памахалі крыламі, узняліся ў паветра і паляцелі на стог, на гняздо.

Так яны і вучыліся некалькі дзён.

Аднойчы, напрыканцы жніўня, пяць буслоў прыляцелі і селі на стог у канцы агародаў, пакружыліся над дваром дзядзькі Рыгора, а тады паляцелі за Нёман. Каб разам з усімі бусламі ляцець у далёкі вырай.

---

**Ме́шанка** — кармавая сумесь для жывёлы.
**Пы́рнік** — шматгадовая травяністая расліна сямейства злакавых.

---

1. Чаму буслы не захацелі гняздзіцца на старой баране, якую хлопцы ўладкавалі на бярэзіне?
2. Якое месца абралі яны для гнездавання?
3. Як буслы абаранялі буслянят? Як вучылі іх лятаць? Знайдзіце адпаведныя радкі і зачытайце.
4. Як адляталі буслы ў вырай? Зачытайце.
5. Прачытайце апавяданне. Закончыце складанне плана.

План

1) Буслы прыляцелі.
2) ...
3) ...
4) ...

6. Падрыхтуйце пераказ тэксту па плане.

## Вясною

***Васіль Жуковіч***



Расці, дрэўца,
расці, траўка,
расці, краска,
калі ласка.
Я вас не забуду —
паліваць вас буду.

1. Да каго звяртаюцца з просьбай у заклічцы?
2. Калі спяваюць песні-заклічкі?
3. Прачытайце заклічку самі сабе і падрыхтуйцеся да выразнага чытання.

## Самалёт на лузе

***Мікола Гіль***

На лузе ля Камароўкі сеў самалёт!

Хто першы прынёс у вёску гэту вестку, невядома. Вядома іншае: яна абляцела вёску вокамгненна. Старэйшыя памалу сыходзіліся ў купкі і абгаворвалі падзею, а дзеці, не мару́дзячы ні хвіліны, памчаліся на луг.

Пеця Клімук бег разам з усімі.

Няўжо зараз ён убачыць самалёт — самы сапраўдны, з чырвонымі зоркамі на крылах? Няўжо

ён зможа падысці да яго блізка? Няўжо ён пабачыць лётчыка?

Нават на трактар і аўтамашыну Пеця не можа глядзець спакойна, абыякава. А пра самалёт няма чаго і гаварыць! Пагоніць у поле карову, ляжа на траву і глядзіць, як па небе плывуць лёгкія, быццам пушынкі, аблачынкі. А калі самалёт нечакана вынырваў з-за аблокаў, Пеця не вытрымліваў, усхопліваўся на ногі і, махаючы рукамі, крычаў на ўсё поле:

— Мой мілы таварыш, мой лётчык,
Вазьмі ты з сабою мяне!..

Крычаў так гучна, што карова падымала галаву і няўцямна глядзела на свайго малога гаспадара.



Самалёт знікаў з вачэй, Пеця зноў лажыўся на траву і думаў: «Здорава, каб можна было, як у вершы, “пабыць у людзях, паглядзець, як месяц на небе начуе, як блукае ў лесе мядзведзь, як свяцяцца ночкаю зоры...”».

Верш Янкі Купалы Пеця даўно ведае на памяць. Колькі разоў думаў: каб спаткаўся з лётчыкам, як той хлопчык з верша, дык абавязкова ўпрасіў бы ўзяць яго ў палёт...

Самалёт сапраўды стаяў на лузе. Крылы так шырока раскінуты, што па камароўскай вуліцы ён бы і не праехаў, платы наўзбоч пазварочваў бы.

Пеця праціснуўся між людзей наперад, да самага самалёта. Асцярожна, каб ніхто не заўважыў, дакрануўся рукою да крыла. Яно было халоднае, хоць добра грэла сонца. На крыле корпаўся лётчык. Бялявы, не надта каб і высокі, шыракаплечы.

Ён павярнуўся да людзей і сказаў:

— Усё ў парадку, можна ляцець. Папрашу далей ад самалёта!

Спачатку адступалі назад памалу, але калі матор, чмыхнуўшы некалькі разоў, завыў на ўвесь луг, усе адкаціліся ад самалёта хуценька і досыць далёка.

Самалёт крануўся з месца і, няўклюдна пакалыхваючыся, пакаціўся. Набраўшы вышыню, лётчык зрабіў над лугам круг, і людзі, што ўсё яшчэ стаялі, задзёршы галовы, закрычалі:

— Махае, махае рукой!

Вокамгне́нна — за вельмі кароткі час.
Няўця́мна — нічога не разумеючы.

1. Пра каго вы даведаліся з гэтага твора?
2. Аб чым марыў Пеця Клімук у дзяцінстве? Якія пачуцці ахаплівалі хлопчыка, калі ён бачыў самалёт і іншыя машыны? Як пра гэта гаворыцца ў тэксце?
3. Што адчуў Пеця, калі падышоў блізка да самалёта?
4. Ці здзейсніліся мары Пятра Клімука? Кім ён стаў?

## Бусел над Хатынню

***Васіль Жуковіч***

Пакружыўся над Хатынню бусел
сонечна-пагодлівай вясной:
каміны стаяць. І людзі ў скрусе.
І нідзе хаціны ні адной.

Заміраюць галасы людскія,
гукі абуджальнае вясны,
і плывуць трывожныя такія,
тонкія, жалобныя званы.

**Лю́дзі ў скру́се** — людзі ў маркоце.



1. Якія пачуцці выказаў аўтар у вершы? У якіх радках гэта гучыць найбольш выразна?
2. Што ўбачыў бусел замест вёскі Хатынь? Што вы ведаеце пра Хатынь? Раскажыце.
3. Прачытайце другі слупок верша і растлумачце выраз «І плывуць трывожныя такія, тонкія, жалобныя званы».
4. Як людзі ўшаноўваюць памяць загінуўшых у гады Вялікай Айчыннай вайны?
5. Супастаўце малюнак са зместам верша. Знайдзіце радкі, якімі можна падпісаць гэты малюнак.
6. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання твора.

# Жаваранкі над Хатынню

*Урывак з аповесці*

***Алена Кобец-Філімонава***

Хто б ты ні быў, калі прыйдзеш у Хатынь, пакінь свае кветкі на магільнай пліце, а сам прысядзь. Прысядзь, адпачні пасля дарогі і паглядзі на неба, паслухай жаваранкаў. Хатынскія жаваранкі спяваюць не так, як другія. Пра што яны спяваюць?.. А ты паслухай, падумай — і сэрцам пачуеш іх песню: «Людзі добрыя, помніце: мы любілі жыццё, і Радзіму, і вас, дарагія. Мы згарэлі жывымі ў агні. Наша просьба да ўсіх: беражыце мір! Каб нідзе і ніколі ў віхуры пажараў жыццё не ўмірала!»

Дзін-дон!..

Усё гэта было на свеце!

Людзі добрыя, помніце!

Помніце! Помніце!

1. Якія пачуцці ўзніклі ў вас падчас чытання твора?
2. Да каго звяртаецца аўтар тэксту?
3. Што ён прапануе людзям?
4. Пра што спяваюць хатынскія жаваранкі? Знайдзіце і зачытайце адпаведныя радкі.
5. Чаму нам і нашым нашчадкам трэба берагчы мір і жыццё людзей на Зямлі?
6. Прачытайце тэкст самі сабе і падрыхтуйцеся да выразнага чытання ўголас.

# Добрая фея

*Лідзія Арабей*

Свяціла сонейка, зелянела трава, клёнікі толькі што павыкідвалі свае клейкія лісточкі. І весела забаўляліся ў двары хлопчыкі. Яны бегалі навыперадкі, гулялі ў хованкі, гушкаліся на арэлях. З імі бегаў, залівіста гаўкаў руды віславухі сабака, ён не баяўся, што яго пакрыўдзяць альбо прагоняць, бо ведаў — ён з гэтай самай кампаніі і ўсе дзеці яго любяць.

А яшчэ адзін хлопчык сядзеў у крэсле каля пад’езда і сумна пазіраў на дзяцей. Ён зайздросціў не толькі гэтым хлопчыкам, але і рудому сабачку, які так спрытна скакаў на сваіх кудлаценькіх лапках. Гэтаму хлопчыку таксама хацелася пабегаць, пагуляць са сваімі равеснікамі, але ён не мог бегаць, ён не мог нават хадзіць, бо ў яго былі хворыя ногі.

Маці раніцай выносіла на двор крэсла, потым выносіла на руках сына, і ён падоўгу сядзеў, пазіраючы на белыя воблакі, што плылі ў блакітным небе, глядзеў, як калыхаў вецер кляновыя лісточкі. А найбольш пазіраў на дзяцей, слухаў іх звонкія галасы.

Ён быў бы вельмі ўдзячны, калі б хто-небудзь падышоў да яго, пагаварыў з ім. Не могучы бегаць,

гуляць у двары, хлопчык шмат чытаў і ведаў многа казак, розных цікавых гісторый, ён мог бы расказаць іх дзецям. Але тыя не падыходзілі да яго, рабілі выгляд, быццам яго наогул няма ў двары каля пад'езда. І вочы ў хлопчыка былі заўсёды сумныя, а твар не ведаў усмешкі.

Аднойчы ў двары з'явілася дзяўчынка. У яе былі светлыя кучаравыя, як у анёла на паштоўцы, валасы, вялікія сінія вочы і тонкая шыйка. Хлопчыкі заўважылі яе, і яна ім спадабалася.

— Ідзі да нас гуляць! — паклікаў адзін.

— Мы прымаем і дзяўчатак! — сказаў другі.

Але дзяўчынка не пайшла да іх. Яна спынілася каля хлопчыка, які сядзеў у крэсле.

— Як цябе зваць? — спытала яна.

— Віця, — адказаў хлопчык.

— А мяне Іра. Скажы, чаму ты не гуляеш з дзецьмі?

— У мяне ногі хворыя, я не ўмею хадзіць.

— А з кім ты сяброўеш? — спытала дзяўчынка.

— Я ні з кім не сябрую, — апусціў вочы хлопчык. — Са мною ніхто не хоча сябраваць.

— Я буду з табою сябраваць.

— Праўда? — узрадаваўся Віця, і твар яго асвятліла ўсмешка.

Дзяўчынка таксама ўсміхнулася свайму новаму сябру і раптам сказала:

— Я думаю, не такія ўжо хворыя твае ногі і калі ты вельмі захочаш, то зможаш хадзіць.

— Не, — уздыхнуў Віця. — Я спрабаваў... Не ўмею...

— А я табе дапамагу, — сказала Іра. — Дай руку!

Віця падаў руку дзяўчынцы, і здарыўся цуд. Хлопчык стаў на ногі! Ён стаяў яшчэ не вельмі цвёрда, але стаяў.

— Вось бачыш, — сказала Іра, — ты ўжо ўмееш стаяць. А цяпер ідзі за мною... Ідзі!..

Хлопчык зрабіў адзін крок, другі.

Дзеці, якія гулялі ў двары, сабраліся каля пад'езда і глядзелі на ўсё гэта, як на дзіва. Нават руды сабачка прыбег з імі і таксама, быццам нешта разумеючы, з цікавасцю глядзеў на Віцю.

Адзін хлопчык кінуўся ў пад'езд, да Віцевай кватэры.

— Цёця! — закрычаў ён.— Ваш Віцька ходзіць!

Віцева маці выбегла на двор і, не верачы сваім вачам, глядзела на сына, які, трымаючыся за Ірыну руку, рабіў першыя нясмелыя крокі.

— Ты чараўніца? — пыталіся ў Іры хлопчыкі. — Ты добрая фея?

— Не,— адказала Іра. — Я звычайная дзяўчынка...

Хлопчыкі не ведалі, што добрае слова дапамагае часам, як чароўныя лекі.

1. Што вас кранула ў апавяданні?
2. Чаму дзеці «рабілі выгляд», што Віці «наогул няма ў двары»? Як адчуваў сябе пры гэтым Віця? Знайдзіце адпаведныя радкі і зачытайце.
3. Чаму ўзрадаваўся Віця? Прачытайце.
4. Які цуд здарыўся з хлопчыкам? Хто яму дапамог стаць на ногі?
5. Чаму хлопчыкі назвалі Іру добрай феяй?
6. Што адказала ім на гэта дзяўчынка? Зачытайце яе адказ. Якія рысы характару праявіліся ў дзяўчынкі?
7. Прачытайце апошні сказ тэксту. Як вы разумееце яго сэнс.
8. Ці даводзілася вам дапамагаць хворым?

## ПРЫКАЗКІ

- *Ад добрага чалавека вада даражэй, чым ад кепскага.*
- *Трэба з людзьмі па-людску жыць.*
- *Шчыраму сэрцу і чужая болька баліць.*
- *Добрая справа не забываецца.*
- *Чалавек без сяброў, што дрэва без каранёў.*

1. Прачытайце прыказкі. Як вы разумееце іх сэнс?
2. Якая з прыказак, на вашу думку, найбольш падыходзіць да твора «Добрая фея»? Растлумачце, чаму вы так лічыце.



1. Разгледзьце малюнак. Дайце яму загаловак.
2. Складзіце вусна апавяданне.
   Пачніце так: *«Наступіла вясна. З палёў сышоў снег. Вяскоўцы рыхтуюцца да вясновага севу. Механізатары адрамантавалі трактары, камбайны...»*

**Словы для выкарыстання:** *працаваць у полі, баранаваць і сеяць, пшаніца, бульба, апусцее, араць зямлю, сеялкі, хутка, загудуць трактары, выйдуць, трактарысты, паедуць, увесь дзень.*

## ЧЫТАЕМ, АБАГУЛЬНЯЕМ, ПРАВЯРАЕМ СЯБЕ ПА РАЗДЗЕЛЕ
## «Якое хараство — вясна! Вясне мы ўсе заўсёды рады...»

1. Назавіце першы месяц вясны. Што цікавага адбываецца ў гэты перыяд у прыродзе? У жыцці звяроў і птушак? Назавіце творы, з якіх вы даведаліся пра гэта. Хто іх аўтар? Прачытайце адзін-два ўрыўкі з гэтых твораў.

2. Што такое крыгаход? У якіх творах апісваецца гэта прыродная з'ява? Знайдзіце і зачытайце адпаведныя ўрыўкі.

3. Раскажыце, што адбываецца ў прыродзе ў красавіку, маі. Назавіце творы, у якіх апісваецца гэта пара. Прачытайце ўрыўкі з гэтых твораў. Раскажыце, якія прыкметы вясны вы назіралі ў прыродзе? Што ўбачылі? Што пачулі?

4. Падумайце і адкажыце, чаму так гавораць: «Сакавік — гэта месяц святла, красавік — месяц вады, май — месяц травы».

5. Раскажыце пра вясновыя клопаты людзей. Якія работы праводзяцца ў агародзе, у полі?

6. Назавіце твор з гэтага раздзела, які вам запомніўся больш за іншыя. Калі гэта верш, то падрыхтуйцеся прачытаць яго на памяць, калі апавяданне — пераказаць змест блізка да тэксту.

7. Прачытайце казку Азізы Ахмедавай «Мой родны кут». Уявіце, што вы з сябрамі хочаце зрабіць па гэтай казцы дыяфільм. Колькі асобных кадраў будзе ў вашым дыяфільме? Што вы будзеце адлюстроўваць у кожным з

іх? Раскажыце. Якія сказы з тэксту вы возьмеце для падпісвання кадраў? Прачытайце іх.

8. Да якіх твораў адносяцца гэтыя малюнкі?











# ДЗІВОСНАЕ ЛЕТА З ДАРАМІ ПРЫЙШЛО...

*Мікола Мятліцкі*



## Залатая пара

***Рыгор Ігнаценка***

Летам усюды зялёны прастор і прыгажосць.

У полі бушуе жыта. Коцяцца пад лёгкім павевам ветрыку зялёныя хвалі, коцяцца і коцяцца, і няма ім ні канца ні краю. І калі над гэтым жытнёвым морам раптам падымаецца сівы лунь-мышалоў, міжволі здаецца табе, што гэта сапраўды мора, у якім дзесьці на небасхіле праплывае малюсенькі паруснік.

Узлесак і паляны патанаюць у белых карунках рамонкаў, у бірузе лугавога льну і братак, у тонкім перазвоне ліловых званочкаў.

Хораша летам і на лузе. Сухое паветра настоена на тонкім водары ружовай смолкі, на мядовым паху канюшыны...

Хораша гэтай парой паляжаць у цяньку дрэў або асвяжыцца ў рэчцы. Але яшчэ больш прыемна прабрацца на світанні да азярца і бясшумна закінуць у ваду вуду. Закінуць і моўчкі любавацца, як лёгкі паплавок далікатна пачне раскланьвацца...

Вось з-за лазняку выглянула велізарнае чырвонае сонца. Пасля яно падымецца над лугамі, і ўсё навокал раптам паплыве ў нейкім казачным тумане. І ты сам тады, з вудай у руцэ, здаецца, плывеш у бязмежную рухомую далячынь...

Лета! Залатая пара...

**Лунь-мышало́ў** — драпежная птушка сямейства ястрабіных з шаравата-белым апярэннем у дарослых самцоў.

1. Якія карціны вы ўявілі пры чытанні твора?
2. Якімі словамі аўтар перадае прыгажосць поля, лесу, лугу, возера? Прачытайце.
3. Як вы лічыце, чаму аўтар назваў лета залатой парой?
4. На колькі частак можна падзяліць тэкст? Чаму?
5. Перакажыце тэкст.

# Дзень добры, лета!

***Анатоль Астрэйка***



Смяецца, радуецца лета.
Пяюць шпакі і салаўі.
Шуміць пшаніцаю палетак,
І вабяць да сябе гаі.
Дзень добры, лес!
Дзень добры, поле!
Зямная слаўная краса!
Дзень добры лісціку на голлі,
Табе, празрыстая раса!
Няхай нас лашчыць,
Цешыць лета,
Пяюць шпакі і салаўі.
Дзень добры,
Аржаны палетак,
Дзень добры,
Родныя гаі!

1. Які настрой перададзены ў вершы?
2. Якія словы і выразы выкарыстоўвае паэт, каб перадаць гэты настрой?
3. Якія фарбы набываюць лес і поле ўлетку?
4. Як вы разумееце выраз «Смяецца, радуецца лета»?
5. Якія радкі з тэксту вы маглі б скарыстаць, каб перадаць свае адносіны да прачытанага?

# Залаты лянок

***Таіса Жумар***

Была Марынка гарадской дзяўчынкай, а стала вясковай. На ўсё доўгае цёплае лета прыехала да бабулі ў вёску.

Бабуліна хата ў вёсцы самая крайняя. На страсе — гняздо. Жывуць у ім вялікія, паважныя буслы, бусляняты гадуюцца. За хатай лес сцяною стаіць. Зялёны, шумлівы.

На сонечных палянах ягад як насыпана. Толькі не лянуйся: нахіліся, кожнай ягадцы пакланіся, не агледзішся, як кубак напоўніцца. А перад хатай, як вокам акінуць, усё поле ды поле. Незвычайнае поле, ніколі раней такога Марынка не бачыла. Выглянеш у акенца раніцай — бягуць па полі, даганяюць адна адну блакітныя хвалі. Як на моры. Глянеш пад вечар — быццам і не было сіняга мора. Рассцілаецца перад вачыма зялёны дыван.

— Гэта лянок расце, — сказала бабуля ўнучцы. — Залаты наш лянок.

— Чаму залаты? — здзівілася Марынка.

— Залатым наш лён называюць здавён. Два яго колеры, зялёны і блакітны, ты бачыла. Залаты — трэці і самы галоўны колер. Гэта колер спелага льнянога палетка. І яшчэ наш лён таму завуць залатым, што шмат карысці ад яго людзям. Вось суkенка на табе, унучка, якая?

Глянула Марынка на сваю сукенку. Звычайная, здаецца, сукенка. Блакітная, на кішэньках жоўтыя сланечнікі вышыты. А сукенка з ільну, з ільнянога палатна пашыта.

— З лянку нашага, — гаворыць бабуля, — шмат іншых патрэбных рэчаў робяць. Вось ранічкай ты прачнешся, да калодзежа мыцца пабяжыш, ручнік узяць не забудзь...

— Вось гэты, з пеўнікам?

— Ага ж, з пеўнікам. Ручнік гэты льняны. І прасцінка на тваім ложку, і абрус у нас на стале з ільну. І нават Лёня-Лявон...

Лёня-Лявон — гэта лялька. У яго валасы з кудзелі. На галаве ў яго капялюш, у руках скрыпка, сінія вочы Марынцы ўсміхаюцца.



А потым адчыніла бабуля куфар і паказала ўнучцы вясёлыя ручнікі, каляровыя посцілкі. Яна іх сама зімовымі вечарамі на кроснах выткала.

Дзівіцца Марынка:

— Бабуля, няўжо ў цябе ўсё ў хаце льняное?

— Усё не ўсё, а шмат чаго. Наогул, з ільну нават дом пабудаваць можна! Будаўнікі вельмі хваляць кастрапліты — будаўнічы матэрыял з ільну. А яшчэ магу цябе пачаставаць ільняным алеем.

Слухае Марынка бабулю, а сама ўсё на посцілкі ды ручнікі паглядае. Хараство такое, што вачэй не адвесці.

— Бачу, спадабаўся табе, унучка, наш лянок?

— Вельмі спадабаўся, бабуля.

**Ку́фар** — вялікая скрынка з векам для захоўвання тканіны, адзежы, каштоўнасцей.

**Палé́так** — участак поля, які выкарыстоўваецца пад пасевы.

1. Што ўразіла Марынку ў вёсцы?
2. Чаму лянок называюць залатым?
3. Якія рэчы робяць з ільну?
4. Чым спадабаўся Марынцы лянок?
5. Прачытайце твор самі сабе.
6. Размяркуйце тэкст па ролях і прачытайце, захоўваючы пэўную інтанацыю.
7. Перакажыце твор блізка да тэксту.



# Смачная дарога

*Мікола Мятліцкі*

Між хвой расахатых,
Прамей, як струна,
Прастуе ад хаты
Дарога адна.

Дарогаю гэтай
З зарэчча ў сяло
Дзівоснае лета
З дарамі прыйшло.

Абапал дарогі
Красуюць дары:
Суніцы, маліны, чарніцы —
Бяры!

Дзяцей галасы там
Гучней і гучней.
Не стрэнеш у лесе
Дарогі смачней.

Расаха́ты — з раздвоеным ствалом, вілаваты.

1. Якім настроем прасякнуты гэты твор?
2. Якую дарогу паказаў паэт? Чаму ён назваў яе смачнай?

3. Якія словы і выразы ўжывае паэт, каб апісаць «смачную» дарогу? Зачытайце.
4. Якія багацці, акрамя названых у вершы, утойвае лес? Раскажыце пра іх.
5. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання. Навучыцеся чытаць верш бадзёра, весела.

## Шануйце ўсё жывое

***Уладзімір Дубоўка***

Як толькі я сябе помню, бацькі мае і старэйшыя людзі — суседзі — прывучалі нас, малых, шанаваць усё жывое, што вакол нас:

— Не тапчы травіцы, хадзі сцежачкай. Трава вырасце. Яе скосяць — будзе сена кароўкам...

— Не чапай, не ламай малога дубочка або сасонкі. З іх вырастаюць вялікія дрэвы.

— Асцярожна рві яблыкі — не паламай галінкі. Дрэва будзе хварэць, на паламаным суку не будзе яблыкаў...

— Напрасткі праз жыта не хадзі. Ты патопчаш нагамі хлеб...

Штодня чуў я ад людзей нешта новае і цікавае:

— Гэта зёлка называецца дзівасіл. Калі выкапаць і пасушыць карэнне дзівасілу, яно будзе найлепшае лякарства ад болю ў грудзях... — А гэта красачка — валошка, або васілёк, ад хваробы вачэй.



З маленства расло ў мяне вялікае замілаванне да прыроды. Нават крапіву-жыгучку я не збіваў ні кіем, ні пугаю. Бо і яна расце на карысць чалавеку. Крапіва лечыць ад многіх хвароб, а вясною з яе гатуюць салаты, халаднікі — самыя багатыя вітамінамі стравы.

1. Ад чыйго імя напісаны твор? Чаму вы так думаеце?
2. Чаму вучылі старэйшыя людзі дзяцей змалку? Прачытайце.
3. Пра якія лекавыя расліны гаворыцца ў творы?
4. Якія якасці выхоўвалі бацькі ў аўтара з маленства?
5. У чым праяўлялася яго любоў да прыроды? Пацвердзіце сваю думку словамі з тэксту.
6. Прачытайце тэкст самі сабе і падрыхтуйцеся пераказаць яго сваімі словамі.

# Патрэбная справа

***Рыгор Ігнаценка***

Калісьці дзядуля Міхал сам быў леснікам. А цяпер ім стаў яго сын, а Сяргейкаў бацька. І хоць дзядуля ўжо старэнькі і сла́бы, але з лесам усё яшчэ не расстаецца, тое-сёе робіць у ім. Ды і ўнука гэтаму вучыць.

Вось пад маладой елачкай вялізны мурашнік узвышаецца. Дзядуля з унукам падыходзяць да яго, аглядаюць. Дзядуля тут жа непадалёк выбірае ў гушчары і ссякае маладую хвойку. Паваленае дрэўца яны абцярэбліваюць ад галля і распілоўваюць на некалькі частак. Дакладней кажучы, дзядуля разразае, а Сяргейка толькі дапамагае яму: трымае доўгую жардзіну. Потым дзядуля сякерай завострывае канцы ў палках і забівае іх у зямлю. На гэтыя калкі кладзе жэрдкі і прыбівае іх цвікамі. Такім чынам вакол мурашніка ўтвараецца агароджа. Сяргейка хуценька вымае з торбы невялікую дошчачку. На ёй друкаванымі літарамі напісана «Кварта́л». А пад ім парадкавы нумар. Дзядуля прыбівае дошчачку да калка і прымацоўвае да агароджы.

— А навошта мы гэта, дзядуля, робім? — цікавіцца Сяргейка.

— Каб лось нагою на мурашнік не стаў альбо дзік не разрыў. Ды і чалавек без патрэбы не будзе мурашнік непакоіць.

— А калі хто разрые, дык што будзе?

— Як гэта — што? Мурашкі пагінуць,— адказвае дзед. — А яны ж вельмі патрэбныя лесу.

— Навошта?

— Розных шкодных вусеняў, жукоў і іх лічынак знішчаюць. Апрача таго, смецце ў лесе падбіраюць. Бачыш, колькі яго тут мурашкамі сабрана.

Дзед Міхал сеў на купіну адпачыць. А Сяргейка пачаў за мурашкамі назіраць.

А яны, не зважаючы на хлопчыка, кожная сваім займаецца. Хто хваінку да жылля цягне, хто травінку якую ці пялёстак. Ніхто так не сядзіць.

— Дзядуля, глянь сюды! — неўзабаве ўсклікнуў хлопчык.



— Што там такое? — азваўся дзед.

— Мурашкі нейкую вялікую муху ў мурашнік цягнуць!

— А чаму ж ім не цягнуць? У гаспадарцы спатрэбіцца,— адказвае дзед.

— А во вусень! Цэлым гуртам яго валакуць! Ды як дружна!

— А ты ж пытаеш, навошта мурашкі. Там, дзе ёсць мурашкі, лес заўсёды здаровы і чысты.

Дзед памаўчаў з хвіліну і дадаў:

— Вось і мы сёння з табой, унучак, дапамагаем мурашкам, а заадно, вядома, і лесу. Каб ён быў чысты і здаровы. Справа гэта, як бачыш, нескладаная. Але вельмі патрэбная.

---

**Жардзі́на** — доўгая тоўстая жэрдка.
**Кварта́л** — пэўны ўчастак лесу.
**Ку́піна** — грудок сухой цвёрдай зямлі на нізкім або балоцістым месцы, аброслы мохам, травой.

---

1. Якім навукам вучыў дзед Сяргейку? Прачытайце.
2. Што даведаўся хлопчык пра мурашак?
3. Чаму ў народзе іншы раз кажуць пра чалавека: «Працавіты як мурашка»?
4. Чаму аўтар назваў твор «Патрэбная справа»?
5. Прачытайце тэкст самі сабе і падрыхтуйцеся да выразнага чытання па ролях размовы дзядулі з хлопчыкам.

# Хітры верабейка

*Алесь Ставер*

Дзяніска і Андрэйка пайшлі лавіць рыбу. Нехта сказаў ім, нібыта ў вадасховішчы, што ў Зялёным Лузе на ўскраіне Мінска, водзяцца карасі і плоткі.

Дзень быў спякотны, на небе ні хмурынкі. Хлапчукі пакупаліся ў цёплай вадзе. Потым закінулі вуды і селі чакаць, калі рыба пачне брацца. Недалёка ад іх пырхала чародка вераб'ёў. Шугануць да вадасховішча, рассыплюцца на пясчаным беразе, скок-скок у ваду, страпянуцца — пырскі аж на пясок ляцяць. І раптам сарвуцца ўгору, нібы ма-



гутны віхор садзьмуў іх. Апусцяцца на парыжэлую ад сонца траву і шчыруюць у пошуку спажывы.

Рыба не клявала. Дзяніска і Андрэйка амаль задрамалі. І тут над іх галовамі матнуўся цёмны цень. Хлапчукі ўбачылі, як вялікі каршун кінуўся да чародкі вераб'ёў. Тыя пырхнулі ўгору і рассыпаліся хто куды. Каршун крута рвануў у неба, павольна паплыў у бок лесу.

Дзяніска паспеў убачыць, што адзін верабейка ледзь-ледзь не трапіў у каршуновы кіпцюры. Пад самым драпежнікам ён кульнуўся ў паветры і каменем упаў каля куста. Дзяніска пабег паглядзець, што здарылася з верабейкам, можа, аб вострыя кіпцюры параніўся — дапамагчы трэба яму. Падбег да куста, бачыць: ляжыць верабейка на траве дагары, падагнуўшы ножкі. Дзяніска нахіліўся, каб узяць верабейку. А той імгненна ажыў, сігануў з-пад самых рук угору і знік у блакіце.

1. Што вас асабліва ўсхвалявала ў гэтым апавяданні? Прачытайце адпаведныя ўрыўкі.
2. Куды Дзяніска і Андрэйка пайшлі лавіць рыбу?
3. Што адбылося, пакуль хлапчукі лавілі рыбу?
4. Чаму апавяданне мае назву «Хітры верабейка»? Знайдзіце ў тэксце словы, якія пацвярджаюць вашу думку. Зачытайце іх.
5. Перачытайце апавяданне і падрыхтуйцеся пераказаць яго блізка да тэксту.

# Журка

*Міхась Даніленка*

## I

Бацька прынёс Толіку маладога жураўліка з перабітым крылом.

— Хутка халады пачнуцца. Акалее, загіне, — сказаў ён. — А мы яго выхадзім...

Калі Толік падыходзіў да птушкі, яна злосна шыпела, раскрывала дзюбу — спрабавала дзеўбануць хлопчыка. Не прывык Журка, каб яго рукамі гладзілі.

Толік са старога рэшата зрабіў птушцы ў сенцах гняздо. Два разы прывёў яго сюды нанач. А на трэцюю ноч Журка сам знайшоў сваё гняздо, доўга тупаў у ім, уладкоўваўся, каб ямчэй спалася, — і заціх.

— Заснуў, — радасна паведаміў Толік бацьку, як толькі той вярнуўся з лесу з чарговага абходу.

## II

Крыло ў Журкі зажыло. Цяпер ён асмялеў — смешна дыбаў па пакоях, і нават сабака Шарык баяўся вострай Журкавай дзюбы.

А Толіка Журка пачаў слухацца. Нават пасябраваў з ім. Мусіць, таму, што хлопчык яго карміў, бавіў свой час з ім.



...Доўга цягнулася зіма з завеямі і снегам. Але вось і вясна нарэшце прыйшла. Зазвінеў у высокім небе жаўрук, заспявалі свае песні берасцянкі, падала голас чорная жаўна.

— Хутка Журка паляціць ад нас, — сказаў аднойчы бацька Толіку.— Бачыш, як неспакойна ён па двары пахаджае.

І праўда. Журка трывожна мераў двор і ўсё прыслухоўваўся да птушыных галасоў, што даносіліся з вышыні.

## III

Аднойчы, калі высока ў блакітным небе плыў шнурочак жураўлёў і адтуль даносіліся іхнія гала-

сы — быццам нехта трубіў на срэбраных трубах, — Журка падскочыў раз, другі, узмахнуў крыламі. Ён падымаўся ўсё вышэй і вышэй — даганяў тых жураўлёў, што вярнуліся з заморскіх краін да сябе дадому.

— Бывай, Журка, — памахаў яму рукой Толік.

1. Якую добрую справу зрабілі бацька і Толік? Пацвердзіце свае выказванні словамі з тэксту.
2. Як паводзіў сябе Журка спачатку? З кім ён пасябраваў? Чаму? Адкажыце словамі з тэксту.
3. Перачытайце апавяданне самі сабе і прыдумайце загалоўкі да кожнай часткі.
4. Падрыхтуйце падрабязны пераказ адной з частак тэксту (на выбар).

## Загадка-жарт

***Уладзімір Мацвеенка***



Дзень спякотны.
Гэта ж лета!
Ля латка
Дзве чэргі
Дзетак.
Пакаштуем, —
Кажуць, — мы
Па кавалачку
Зімы!

1. Пра які «кавалачак зімы» гаворыцца ў загадцы?
2*. Паспрабуйце самі скласці адну загадку-жарт.

## ПРЫКАЗКІ

- *Летні дзень год корміць.*
- *Улетку кожны кусцік начаваць пусціць.*
- *Дзе раней жыта рукамі жалі, там цяпер камбайны зашагалі.*

Прачытайце прыказкі, растлумачце сэнс кожнай з іх.

## ЧЫТАЕМ, АБАГУЛЬНЯЕМ, ПРАВЯРАЕМ СЯБЕ ПА РАЗДЗЕЛЕ «Дзівоснае лета з дарамі прыйшло...»

1. Успомніце, з якіх твораў узяты наступныя ўрыўкі:
   а) *«Слухае Марынка бабулю, а сама ўсё на посцілкі ды ручнікі паглядае»*.
   б) *«Хутка халады пачнуцца. Акалее, загіне, — сказаў ён. — А мы яго выхадзім...»*
   в) *«Рыба не клявала. Дзяніска і Андрэйка амаль задрамалі. І тут над іх галовамі матнуўся цёмны цень».*
   г) *«— Не тапчы травіцы, хадзі сцежкай. Трава вырасце...»*

2. Хто аўтар паэтычных радкоў?

а) *«Смяецца, радуецца лета.*
*Пяюць шпакі і салаўі.*
*Шуміць пшаніцаю палетак...»*;

б) *«Не сустрэнеш у лесе*
*Дарогі смачней».*

3. Ці бачылі вы вожыка? Калі бачылі, раскажыце, дзе і калі гэта было, як выглядаў звярок, што ён рабіў.

4. Калі добра падумаеце, то апавяданне прыдумаеце: *«Міша і Насця пайшлі ў суніцы...»*

Раскажыце, як яны знайшлі ў лесе суніцы, як збіралі ягады, каго сустрэлі ў лесе, чым закончылася гэтая сустрэча.

6. Назавіце творы, якім адпавядаюць гэтыя малюнкі.









# СВАЮ ДАРАГУЮ РАДЗІМУ, ЯК РОДНУЮ МАЦІ, ЛЮБЛЮ...

*Еўдакія Лось*



## Радзімаю наш край гэты завецца

***Васіль Жуковіч***

На свеце існуе такая краіна,
дзе хвоі ажно дастаюць
аблачыны,
дзе рэкі, азёры ў суседстве
з лясамі
напоўнены салаўёў галасамі.
У гэтай краіне ўзгоркі, раўніны
улетку пакрыты густой
зелянінай.
Ляночак цвіце з небам сінім у згодзе.



Тут песні і казкі з легендамі ходзяць.
Сяброў дарагіх запрашаюць
у госці.
Тут людзі не схільныя
крыўдзіць кагосьці.
У гэтай краіне ля хатаў буслянкі,
а ў хатах пяшчотна гучаць
калыханкі.
Радзімаю нашай край гэты
завецца.
Хай нашай Радзіме шчасліва
жывецца!

1. З якім пачуццём піша паэт пра сваю Радзіму? Да чаго заклікае? Прачытайце.
2. Разгледзьце ілюстрацыю і знайдзіце радкі верша, якімі можна падпісаць яе.
3. Прачытайце назву раздзела і адкажыце, як вы разумееце сэнс гэтых радкоў.
4. Прачытайце назву верша Васіля Жуковіча. Што вы можаце сказаць, параўнаўшы абедзве назвы?
5. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання твора.

## Бусел — сімвал Беларусі

***Уладзімір Караткевіч***

Над усёй нашай краінай, наставіўшы белыя ветразі крылаў, планіруюць буслы. Іх многія і многія тысячы — хто лічыў? На вільчыках сялянскіх хат, на дрэвах, на калонах старых разбураных палацаў, на слупах капліц сярод маладога зялёнага жыта. Гнёзды паўсюль.

І таму мне здаецца, што ў гэтыя — і не толькі ў гэтыя — дні зямлю нашу, Беларусь, можна назваць «зямлёю пад белымі крыламі»...

Да пэўнай ступені бусел — сімвал Беларусі. Ёсць, вядома, дацкія буслы, апетыя Андэрсенам. Ёсць буслы і ў іншых заходніх краінах. Ёсць яны і на поўдні. Але на ўсход ад Беларусі, калі не лічыць Сярэднюю Азію, яны ўжо амаль не водзяцца...

Вось так і плануюць, плануюць буслы. Ветразі іхнія раскрылены над дрэвамі, пушысты хвост, як веерам, накрыў выцягнутыя ногі. А мне пад іхні палёт асабліва думаецца пра Беларусь, нашу з вамі Радзіму.

**Каплі́ца** — невялікі царкоўны або касцельны будынак; малельня.

**Ві́льчык** — верхні стык двух бакоў даху, канёк.

1. Чаму Беларусь называюць «зямлёю пад белымі крыламі»?
2. Як пра гэта сказаў Уладзімір Караткевіч?
3. Чаму бусел з'яўляецца сімвалам Беларусі? Раскажыце.
4. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання.

## Апалон

***Віктар Гардзей***

Матылёк, названы апалонам,
Тут, на Беларусі, рэдкі госць.
Вось чаму ахоўваюць законам
Дзіўную такую прыгажосць.

Ён жыве наогул там, дзе сопкі,
Дзе з гарамі зліўся небасхіл.
Буйныя аранжавыя кропкі —
Яркая аздоба снежных крыл.



На палянах у цішы вясковай
Кружыцца між кветак і травы.
Апалона спудзіш выпадкова —
Упадзе на дол як нежывы.

Прыляцеў да нас з лугоў альпійскіх,
Дык сачок, аматар, выкінь вон.
Беларускі, польскі ці латвійскі,
Апалон заўсёды апалон!

Зако́н — абавязковае для ўсіх правіла, устаноўленае вышэйшым органам улады.
Со́пка — назва невялікай гары конусападобнай або круглаватай формы.
Аздо́ба — тое, што ўпрыгожвае, аздабляе штонебудзь.
Дол — паверхня зямлі, зямля; даліна, нізіна.
Ама́тар — ахвотнік да чаго-небудзь; любіцель.

1. Якія пачуцці выклікаў у вас гэты верш?
2. Чаму трэба ахоўваць матылька апалона?
3. Чаму гэты матылёк стаў для Беларусі рэдкім госцем?
4. Адкуль матылёк апалон прылятае да нас? Ці бачылі вы яго? Апішыце гэтага матылька, карыстаючыся словамі з тэксту.
5. Падрыхтуйцеся да конкурсу на лепшага чытальніка верша.

## Мой скарб

***Артур Вольскі***

Як і кожны ў маёй старане,
я багацце нязмернае маю.



Ды не ў грошах,
не ў золаце —
не!
У любові да роднага краю.

Гэты скарб не схаваны ў зямлі,
не закуты ў іржавай скарбонцы.
Ён вясною
з адталай раллі
узнімаецца рунню да сонца.

Скарб той крыецца ў кожным кутку
неабсяжнай маёй Беларусі.
Рады я дружбаку, земляку,
з ім пароўну багаццем дзялюся.



Беларусь!
Узараную,
дымную,
у лістоце бяроз
і дубоў —
абдымаю цябе,
неабдымную,
ты — багацце маё і любоў.

**Скарб** — багацці прыроды, зямных нетраў; духоўныя і культурныя каштоўнасці.
**Скарбо́нка** — бляшанка, скрыначка з вузкай шчылінай.
**Рунь** — усходы, пасевы азімых культур.

1. Пра які скарб гаворыцца ў вершы?
2. Якімі словамі аўтар перадае сваю любоў да Беларусі? Прачытайце.
3. Як вы разумееце апошнія радкі верша?
4. Выберыце сярод прачытаных у раздзеле вершаў пра Беларусь тыя, якія, на ваш погляд, найбольш сугучныя вершу Артура Вольскага. Абгрунтуйце сваю думку.
5. Апошні слупок верша вывучыце на памяць.

## ПРЫКАЗКІ

- *Радзіма любімая — маці родная.*
- *Усякаму міла свая старана.*
- *Хто за Радзіму гарой, той сапраўдны герой.*

1. Прачытайце прыказкі і растлумачце іх сэнс.
2*. Складзіце паводле адной з прыказак кароткае вуснае апавяданне.

## Родная краіна

***Анатоль Астрэйка***

Мы любім першы гром вясенні,
Калі дажджы з вясёлых хмар,
Каб зноў закрасавала зелень,
Зямлі абмыюць сонны твар.

Мы любім трактароў вурчанне,
Што парушаюць цішыню,
Што ад світання да світання
К сяўбе рыхтуюць цаліну.



Мы любім звонкі голас лета,
Калі без меж ад краю ў край,
Як з бронзы выліты, палетак
Пад ветрам спеліць ураджай.

Мы любім першыя зажынкі,
Калі, нібыта караблі,
Страсаючы з пшаніц расінкі,
Плывуць камбайны па зямлі.



Мы любім залатую восень,
Калі падлічваем свой плён.
Яна дабро ў засекі носіць
Для завірушных зімніх дзён.

Зіму з мяцеліцай мы любім
І, як абрус, бялюткі снег,
Калі вятры наносяць гурбы
Вышэй акон, да самых стрэх.



Мы любім родную краіну,
І стужкі рэк, і сінь азёр,
І звонкі гоман баравінны,
І ззянне месяца і зор.

1. Якія поры года ўзгадваюцца ў вершы?
2. У чым паэт бачыць хараство вясны? лета? восені? зімы?
3. Якія вобразныя словы ўжывае паэт для апісання кожнай пары года?
4. Як бы вы праілюстравалі гэты твор?
5. Апішыце словамі адну з пор года.

## ЧЫТАЕМ, АБАГУЛЬНЯЕМ, ПРАВЯРАЕМ СЯБЕ ПА РАЗДЗЕЛЕ «Сваю дарагую Радзіму, як родную маці, люблю...»

1. Прачытайце ўрыўкі з тых твораў, у якіх гаворыцца пра тое, якая наша Радзіма, як мы яе любім.

2. З якіх вершаў узяты гэтыя радкі?

а) *«Скарб той крыецца ў кожным кутку неабсяжнай маёй Беларусі»;*

б) *«Беларускі, польскі ці латвійскі, Апалон заўсёды апалон!»;*

в) *«У гэтай краіне ля хатаў буслянкі, а ў хатах пяшчотна гучаць калыханкі»;*

г) *«Мы любім звонкі голас лета,*
*Калі без меж ад краю ў край,*
*Як з бронзы выліты, палетак*
*Пад ветрам спеліць ураджай».*

3*. Складзіце невялікае апавяданне «Радзімай наш край завецца».

4. Успомніце і назавіце творы, да якіх зроблены гэтыя малюнкі.





# ЗМЕСТ

## Ляжыць зямля ў адзенні белым, і дрэвы ў шэрані стаяць...

Надыход зімы. *Якуб Колас* .......................... 3
Сняжынкі. *Авяр’ян Дзеружынскі* .................. 6
Першая сцяжынка. *Мікола Залескі* ............... 7
Першы снег. *Уладзімір Корзун* ..................... 9
Сняжынкі. *Васіль Феранц* ............................ 11
Зіма. *Пятро Прыходзька* .............................. 13
Загадка. *Уладзімір Мацвеенка* ..................... 14
Неспадзяваная госця. *Уладзімір Юрэвіч* ......... 14
Новы год. *Мікола Чарняўскі* ........................ 19
Лесавічок. *Рыгор Ігнаценка* ......................... 20
Дзеці і зіма. *Станіслаў Шушкевіч* ............... 23
Рысь у лазні. *Іван Галубовіч* ...................... 25
На санках. *Кастусь Кірэенка* ....................... 28
Лыжы. *Клаўдзія Каліна* ................................ 29
Песні зімы. *Якуб Колас* ............................... 34
Зайцаў кажушок. *Расціслаў Бензярук* ........... 35
Зімой вясна. *Авяр’ян Дзеружынскі* ............... 37
Няверка. *Алена Кобец-Філімонава* ................. 38
Зіма. *Мікола Хведаровіч* .............................. 41
Загадкі. *Алесь Якімовіч* ............................. 43
*Чытаем, абагульняем, правяраем сябе па раздзеле* ........................................... 45

## Якое хараство — вясна!
## Вясне мы ўсе заўсёды рады...

Вясна прыйшла. *Пятро Рунец* .................... 47
Вясна. *Якуб Колас* .............................. 49
На рацэ. *Вера Сід* .............................. 50
Сакавік. *Максім Танк* ......................... 54
Перад паводкай. *Максім Багдановіч* ............. 55
Сварба. *Цётка* ................................ 56
Вясною. *Пімен Панчанка* ....................... 58
Кветкі. *Вісарыён Гарбук* ....................... 59
Маме. *Эдзі Агняцвет* .......................... 61
Дупляначка. *Рыгор Ігнаценка* ................... 62
Мой родны кут. *Азіза Ахмедава* ................ 64
Паслы. *Сяргей Грахоўскі* ...................... 67
Буслянка на стозе. *Яўген Крамко* .............. 69
Вясною. *Васіль Жуковіч* ....................... 73
Самалёт на лузе. *Мікола Гіль* .................. 73
Бусел над Хатынню. *Васіль Жуковіч* ............ 76
Жаваранкі над Хатынню. *Алена Кобец-Філімонава* ............................................ 78
Добрая фея. *Лідзія Арабей* ..................... 79
*Чытаем, абагульняем, правяраем сябе па раздзеле* ............................................ 84

## Дзівоснае лета
## з дарамі прыйшло...

Залатая пара. *Рыгор Ігнаценка* ................. 86
Дзень добры, лета! *Анатоль Астрэйка* ............ 88

Залаты лянок. *Таіса Жумар* ........................ 89
Смачная дарога. *Мікола Мятліцкі* ............... 92
Шануйце ўсё жывое. *Уладзімір Дубоўка* ........ 93
Патрэбная справа. *Рыгор Ігнаценка* ............... 95
Хітры верабейка. *Алесь Ставер* ..................... 98
Журка. *Міхась Даніленка* .............................. 100
Загадка-жарт. *Уладзімір Мацвеенка* .............. 102
*Чытаем, абагульняем, правяраем сябе па раздзеле* ............................................ 103

## Сваю дарагую Радзіму, як родную маці, люблю...

Радзімаю нашай край гэты завецца. *Васіль Жуковіч* ............................................... 105
Бусел — сімвал Беларусі. *Уладзімір Караткевіч* 107
Апалон. *Віктар Гардзей* ................................ 108
Мой скарб. *Артур Вольскі* ............................. 110
Родная краіна. *Анатоль Астрэйка* ................ 112
*Чытаем, абагульняем, правяраем сябе па раздзеле* ............................................ 114

Вучэбнае выданне

**Вольскі** Артур Вітальевіч
**Гімпель** Ірына Андрэеўна

**ЛІТАРАТУРНАЕ ЧЫТАННЕ**

Падручнік для 3 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках
Частка 2

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Ф. Леўкіна*
Мастакі *Л. А. Мурашка, Н. А. Хромава*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*
Камп'ютарная вёрстка *А. М. Кісялёва*
Карэктары *Л. А. Міснікевіч, К. В. Шобік*

Падпісана ў друк 06.08.2012. Фармат 70×90/16. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 8,78. Ул.-выд. арк. 4,37 + 0,47 форз.
Тыраж 21 000 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494469
ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа». ЛП № 02330/0150496
ад 11.03.2009. Вул. Чырвоная, 23, 220600, г. Мінск

(Назва і нумар установы агульнай сярэдняй адукацыі)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан падручніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне падручнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |